КУЛЬТУРА › ГРАМАДСТВА › ЭКАНОМІКА › ЛЮДЗІ › ПАДЗЕІ › ФАКТЫ

‹ № 39 (311) ‹ 12 кастрычніка ‹ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



ІРЫНА СУХІЙ

Стар. 5

**ЭРОЗІЯ СІСТЭМЫ ПРАЦОЎНЫХ АДНОСІН**

Калі і з якой нагоды рабочыя пайшлі ў незалежныя прафсаюзы, і як доўга будзе цягнуцца «агонія» рэжыму? Гэтыя тэмы абмяркоўвалі Аляксей Кароль і Вольга Хвоін з лідарам асацыяцыі прафсаюзаў «Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў» Аляксандрам ЯРАШУКОМ

Стар. 6

**ЯК ПЕРАМАГЧЫ ЧАВЕСА?**

Венесуэльская апазіцыя прайграла выбары, аднак аптымістычна глядзіць у будучыню

Стар. 13

**АНДРЭЙ МЕЛЬНІКАЎ: ПАРТРЭТ НА ТЛЕ ЭПОХІ**

Стар. 15

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**МАСТАК АНТОН КАРНІЦКІ**

Нарыс Сяргея Гваздзёва

З НАГОДЫ

# КРОХКІ ЭКСПАРТНЫ БАЛАНС

Вольга ХВОІН

**Аптымістычны настрой першага паўгоддзя, маўляў, Беларусь пераступіла крызіс, дрэйфуе ў бок панічных пошукаў новых крыніц стабільнасці. Стаўку плануецца рабіць на экспарт, хаця прыбытковы пункт скандальных разбавіцеляў Расія прыкрыла, і гэта адразу ж адчувальна адбілася на паказчыках знешняга гандлю.**




Прыкрытая лавачка з бяспошлінным экспартам нафтапрадуктаў прымушае кіраўніка Беларусі публічна выступаць адвакатам самога сябе. У інтэрв'ю тэлерадыёкампаніі «Мір» Аляксандр Лукашэнка спачатку апеляваў да руплівасці беларусаў, якія заслужылі невялічкі бонус ад суседніх дзяржаў. «Мы іх (беларускія НПЗ — аўт.) давялі да розуму, мы ўклалі ў гэтыя НПЗ і працягваем укладваць грошы, і глыбіня перапрацоўкі ўжо вышэй, чым на любым іншым заводзе ў Расіі. А гэта таксама грошы. Але калі яны такія дрэнныя, чаму тады ўсе расійскія кампаніі, той ж «Лукойл», гатовыя купіць гэтыя прадпрыемствы? Мы гатовыя пакет акцый прадаць, а можа быць і завод цалкам, калі нам дадуць нармальную цану. Пакуль па цане мы не дамовіліся, — распавядаў Лукашэнка.

«Вы, напэўна, чулі шмат пра гэтыя растваральнікі, разбавіцелі? Нам кажуць: так нельга, так можа толькі Расія працаваць», — перайшоў да канфліктнай тэмы Лукашэнка. Кіраўнік Беларусі даводзіць, што нічога заганнага ў перапродажы нафтапрадуктаў няма, бо беларускія спецыялісты ўсяго толькі выконваюць сваю працу. «У Расіі цяжка атрымаць на ўсіх заводах чыстае дызельнае паліва, бо няма глыбіні той перапрацоўкі, як у Беларусі, таму бізнэсмэны пайшлі праз Беларусь. Аказваецца, так дрэнна, — рэзюмаваў Лукашэнка. — Ёсць яшчэ пэўныя спрэчкі, якія належыць вырашыць. Думаю, што мы цалкам справімся з гэтым».

Традыцыйна Лукашэнка ў публічнай прасторы выказваецца па балючых тэмах, незалежна пад выглядам якіх «спрэчак» гэта падаецца. Забарона на экспарт разбавіцеляў і растваральнікаў падкасіла таварны экспарт Беларусі ўсяго за адзін месяц. У жніўні экспарт знізіўся ў параўнанні з ліпенем на 426,8 мільёна долараў. Цягам гэтага года Беларусь аптымістычна нарошчвала аб'ёмы экспарту, найперш за кошт нафтапрадуктаў і растваральнікаў — плюс 92%. За восем месяцаў бягучага года таварны экспарт Беларусі склаў 32,86 мільярда долараў, павялічыўшыся ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 6,24 мільярда долараў.

Нягледзячы на той факт, што прырост беларускага экспарту забяспечваўся за кошт паставак сыравіны з Расіі для нафтаперапрацоўчай галіны (а фокус ужо разгаданы і спынены), а не за кошт унутраных рэсурсаў, кіраўніцтва дзяржавы мае намер павялічваць экспартны складнік. Праўда, афіцыйна гаворыцца пра продаж сельскагаспадарчых ды прамысловых тавараў.

«Мы маем планы 2013 года, накіраваныя на экспарт. Для гэтага ў бюджэце прадугледжваюцца адпаведныя сродкі для падтрымкі экспартных крэдытаў», — сказаў прэм'ер Беларусі Міхаіл Мясніковіч. На яго думку, гэта вельмі актуальна, бо не менш за 65% прамысловай прадукцыі, 20% сельскагаспадарчай Беларусь павінна прадаваць на экспарт. «У нас вельмі маленькі ўнутраны рынак і досыць вялікія магчымасці ў сферы матэрыяльнай вытворчасці і паслуг. Таму асноўныя паслугі і тавары мы павінны прадаваць на экспарт», — мяркуе Мясніковіч.

Экспартная праграма прадугледжвае штогадовае планаванне праектаў, мерапрыемстваў, кантрактаў па дасягненню прагнозных паказчыкаў экспарту. У ёй закладзены канчатковыя мэты: рост экспарту тавараў у параўнанні з 2010 годам у 2,2 разы, паслуг — у 3 разы. Па галінах, рэгіёнах, буйных вытворцах прапісаны праекты, якія будуць даваць новую экспартную прадукцыю, таксама прапісана работа па стварэнні спрыяльных умоў для выхаду на рынкі трэціх краін.

Намеснік міністра замежных спраў Беларусі Аляксандр Гур'янаў, каментуючы зацверджаныя ўказам ад 25 верасня 2012 г. №418 важнейшыя параметры прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 2013 год, адзначыў, што перад урадам стаіць задача нарошчваць аб'ёмы экспарту найперш у краінах Лацінскай Амерыкі, Паўднёва-Усходняй Азіі. «Разлічваем, што наша пасольства ў Інданэзіі, якое закрывае Малайзію, Сінгапур, Аўстралію, актывізуецца, і там будзе прарыў па экспартных пазіцыях», — падзяліўся планамі Гур'янаў.

Прырост ВУП на 8,5% у наступным годзе ўлады таксама звязваюць найперш з экспартам. Намеснік міністра эканомікі Аляксандр Ярашэнка тлумачыў, што акцэнт робіцца ў асноўным на тры групы тавараў — грузавыя аўтамабілі, трактары, халадзільнікі і маразільнікі. Тэмп росту экспарту па гэтых таварах плануецца каля 107–111%, паведаміў намеснік міністра.

Аляксандр Ярашэнка сказаў, што па таварах сальда ў асноўным будзе адмоўным (каля 1,9 мільярда долараў), а ад экспарту паслуг плануецца паступленне валютнай выручкі ў памеры 2,6 мільярда долараў. Паводле яго слоў, экспарт сферы паслуг павінен перакрыць адмоўную велічыню па таварных групах. Улады разлічваюць на паступленне ў эканоміку краіны каля 4,5 мільярда долараў замежных інвестыцый, прыярытэт застаецца за інвестыцыямі ў рэальны сектар, стварэннем новых вытворчасцей.

Разам з тым не першы год застаецца адкрытым пытанне інвестыцыйнага клімату ў Беларусі, што стрымлівае прыход у краіну бізнэсоўцаў. Яны не гатовыя рызыкаваць сваім капіталам у непрадказальных умовах гаспадарання. Вось, напрыклад, што з гэтай нагоды гаворыць пасол Францыі Мішэль Рэнеры: «Французскія прадпрымальнікі баяліся інвеставаць у Беларусь у мінулым годзе, калі была дэвальвацыя. Зараз жа ў Францыі вялікі крызіс еўразоны. Мне здаецца, што пакуль французскія інвестары, французскія прадпрымальнікі знаходзяцца ў працэсе чакання».

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БРЭСТ. ЗМАГАННЕ ЗА ПРАВА НА ГОДНАЕ ЖЫЦЦЁ

Некалькі дзясяткаў чалавек падпісаліся пад зваротам у Брэсцкі гарвыканкам з патрабаваннем правесці капітальны рамонт дому №12 па вуліцы Янкі Купалы ў Брэсце і прывесці ў належны стан дваровую тэрыторыю.

У выніку камунальныя службы пасля ўмяшання мясцовых уладаў усталявалі каля згаданага дому лаўкі, сметніцы, добраўпарадкавалі дзіцячую пляцоўку і пачалі рэгулярную ўборку дваровай тэрыторыі. Што да капітальнага рамонту будынка, дык у гарвыканкаме пакуль спасляліся на недахоп грошай і вялікую колькасць аварыйных дамоў, якія тэрмінова патрабуюць такога самага рамонту. У выніку, з адказу чыноўнікаў вынікае, што дом па вуліцы Янкі Купалы будзе чакаць сваёй чаргі ажно да 2017 года.

Тым не менш, ініцыятыўная група па вырашэнні лакальнай праблемы гэтага дома на чале з Ірынай Чарнабаевай лічыць першы досвед адстойвання свайго права на годнае жыццё паспяховым і збіраецца працягнуць барацьбу за тое, каб жылы будынак быў адрамантаваны раней, чым праз пяць гадоў.

### БАРАНАВІЧЫ. СУПРАЦЬ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

10 кастрычніка баранавіцкія праваабаронцы і грамадскія актывісты адзначылі Сусветны дзень супраць смяротнага пакарання.

Гарвыканкам традыцыйна не дазваляе праводзіць такія грамадска-палітычныя акцыі, як супраць смяротнага пакарання, з нагоды дня правоў чалавека. Таму, каб не губляць час на юрыдычныя працэдуры, грамадскія актывісты не сталі падаваць пісьмовую заяву ў мясцовы гарвыканкам на атрыманне дазволу правесці пікет.

Працаўнікі смяротнага пакарання дзвюма групамі хадзілі па горадзе, размаўлялі з людзьмі і раздавалі ім інфармацыйныя матэрыялы аб неабходнасці забароны смяротнага пакарання. Найперш, давалі пачатаць каляровую паштоўку «Мы супраць смяротнага пакарання» і інфармацыйны буклет «Не — смяротнаму пакаранню!», якія расказваюць грамадзянам пра тое, што Беларусь засталася адзінай краінай у Еўропе, дзе існуе смяротнае пакаранне. Людзі таксама атрымлівалі каляндарыкі кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі».

«Мэта сённяшняй акцыі — гэта адмена смяротнага пакарання і далучэнне Беларусі да агульнаеўрапейскіх каштоўнасцяў. Мы імкнуліся пераканаць людзей, што смяротнаму пакаранню не павінна быць месца ў дэмакратычным грамадстве», — адзначыў праваабаронца Сяргей Гоўша.

### ХОЦІМСК. УЛАДЫ НА ЗВАРОТЫ НЕ РЭАГУЮЦЬ

Улады Хоцімскага раёна ўжо на працягу некалькіх месяцаў фактычна ігнаруюць звароты жыхароў вуліцы Пушкінскай Хоцімска, якія дамагаюцца таго, каб іх вуліца была адрамантаваная належным чынам.

Жыхары гэтай вуліцы нават не атрымалі пісьмовага адказу на свой апошні зварот да начальніка галоўнага экспертна-прававога ўпраўлення КДК В.М. Герасімава па пытанні правядзення рамонту дарожнага пакрыцця. Адказ на зварот мусіў быць дасланы ім да 1 кастрычніка бягучага года.

«У мяне складваецца ўражанне, што чыноўнікам няма ніякай справы да простых людзей, — кажа грамадскі актывіст з Хоцімска Пётр Басейка. — Выбары прайшлі, паказуха з клопатам пра народ ужо непатрэбная, і яны нават перасталі адказваць на нашы звароты. Я ўжо стаміўся абіваць парогі самых розных начальніцкіх на пытанні рамонту дарожнага пакрыцця на вуліцы Пушкінскай, а справа не скранулася з месца. Між тым, на прыёме яшчэ напрыканцы ліпеня старшыня Хоцімскага райвыканкама Фёдар Вішнеўскі асабіста абяцаў мне, што сітуацыя будзе выпраўлена».

Зварот з патрабаваннем адрамантаваць праезджую частку дарогі, пад якім падпісаліся сорак жыхароў гарадскога пасёлка, быў накіраваны ў мясцовы райвыканкам яшчэ 22 чэрвеня. Пасля гэтага начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва Хоцімскага райвыканкама Д. Кокатаў адказаў грамадзянам, што «асабістых сродкаў на ўкладку асфальта-бетоннага пакрыцця» Хоцімскі жылкамгас не мае, але ўсё ж на ўчастку вуліцы Пушкінскай «будзе зроблены ямачны рамонт дарожнага пакрыцця ў III квартале 2012 года».

«Рамонту так і не зрабілі, — кажа Пётр Басейка. — Я зноў пачаў абіваць парогі розных начальніцкіх кабінетаў, звяртаўся да начальніка аддзела па зваротах грамадзян райвыканкама Наталлі Холалавай, начальніка аддзела архітэктуры і будаўніцтва Д. Кокатава, дырэктара жылкамгаса Сяргея Кудраўцава, старшыні райвыканкама Фёдара Вішнеўскага і, урэшце, да начальніка галоўнага экспертна-прававога ўпраўлення КДК В. Герасімава. Паўсюль атрымліваў абяцанкі, што сітуацыя будзе выпраўлена».

9 кастрычніка грамадскі актывіст пабываў на прыёме ў начальніка аддзела па зваротах грамадзян Хоцімскага райвыканкама Наталлі Холалавай, намесніка старшыні райвыканкама Жанны Казаковай, аднак тыя зноў паабяцалі даслаць пісьмовы адказ. Спрабаваў Басейка патрапіць на прыём і да старшыні райвыканкама Фёдара Вішнеўскага, аднак сакратар яго не пусціла, сказала, што ён вядзе прыём грамадзян раз на месяц у вызначаны дзень.

**Матэрыялы падрыхтаваныя паводле spring96.org**

ІНІЦЫЯТЫВА

## АДЫСЕЯ СВАБОДЫ

**Ужо амаль месяц працягваецца сацыяльна-палітычны марафон «Адысея Свабоды», накіраваны на распаўсюд каштоўнасцяў свабоды слова ў краінах Усходняй Еўропы.**

У марафоне бярэ ўдзел адзін чалавек, вандроўца з Беларусі — Вадзім Нікаліс. Вадзім з'яўляецца ўдзельнікам і кіраўніком мінскага філіяла міжнароднага руху «Еўрапейскае дзеянне».

Для хлопца гэта не першы паход. Узімку гэтага года ён у адзіночку перайшоў Беларусь з усходу на захад, увесну здзейсніў дзесяцідзённае, адзінкавае вандраванне ў чарнобыльскую зону адчужэння, гэтым летам ён узначальваў беларуска-расійскую моладзевую экспедыцыю ў раён Паміра. Матывацыяй «Адысеі Свабоды» паслужыла наяўнасць у Беларусі палітычных зняволеных і ўшчамленне свабоды слова. Мэта Вадзіма — дайсці пешкі ад Харкава да Ужгарада.

Вадзім ужо пабываў у Харкаве і Палтаве, дзе сустракаўся з мясцовымі актывістамі. Наперадзе яшчэ шмат кіламетраў і сустрэч. У каментары НЧ хлопец зазначыў:

— Дзяржава, створаная людзьмі і закліканая быць вартавым іх свабодаў, грамадзянскіх правоў, сама стала перашкодай на іх развіцці. І, вядома, у гэтай дзяржаве чалавек, які валодае амбіцыямі, імкнецца рэалізаваць свой патэнцыял, не зможа выканаць пастаўленай задачы, калі будзе крытыкаваць гэту сістэму. Улада сядзіць на карку простых беларусаў. Але і ў краінах, дзе грамадзянскія свабоды ўзурпаваны ўладай, усё адно будуць знаходзіцца вальнадумныя людзі, якія будуць гатовыя несці каштоўнасці свабоды да насельніцтва. Менавіта яны — захавальнікі агню свабоды, таго агню, якога так часта бракуе падчас блукання ў змроку дыктатуры. І менавіта з такімі адважнымі грамадзянскімі актывістамі з Харкава і Палтавы ў мяне былі сустрэчы на шляху да Кіева.

У гэтым і ёсць мэта супрацоўніцтва — развіваць і папулярызаваць нашы каштоўнасці, робячы іх прывабнымі як для простага насельніцтва, так і для мас-медыя. Бо калі нашых прыхільнікаў будзе крытычная маса, калі шматлікія людзі выйдуць са стану «летаргічнага сну» і ацэняць перавагі свабоды, тады кіруючым кланам давядзецца лічыцца з меркаваннем пратэстнай крытычнай масы. І кожны дзень гэтага марафона я буду ісці наперад толькі для адной мэты — папулярызацыі вальнадумства.

ПЕТЫЦЫЯ

## ВЯРНІЦЕ ЦЕЛА

**Любоў Кавалёва з дапамогай праваабаронцаў Нідэрландаў распачала акцыю «Вярніце цела».**

Маці дамагаецца ад уладаў Беларусі вярнуць цела яе сына Уладзіслава Кавалёва, расстралянага разам з Дзмітрыем Канавалавым паводле прысуду Вярхоўнага суда за выбух у мінскім метро.

«Так, я не магу вярнуць сына. На жаль, не магу вярнуць ні жывым, ні мёртвым. Гэта вельмі балюча. А самі разумееце, для маці гэта катаванне — не ведаць, дзе тваё дзіця. Я думаю, што ў такой сітуацыі, у якой апынулася я, няма гарантыі, што не апынуцца іншыя людзі, іншыя беларусы. Зараз прынятыя папраўкі ў закон аб тэрарызме і экстрэмізме, дзе такія масавыя выступы, як пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года, любыя іншыя масавыя выступы, я так думаю, будуць разглядацца як тэрарызм. А тэрарызм — гэта артыкулы аб 25 гадах зняволення і смяротным пакаранні. Таму я думаю, што смяротныя прысуды яшчэ будуць».

«Насамрэч пытанне смяротнага пакарання ў Беларусі знаходзіцца пад вельмі сур'ёзнай заслонай таямніцы. І вось гэтая заслона, калі сваякам не выдаюць цела пакаранага, спараджае мноства розных легендаў. Кшталту таго, што людзі на рудніках працуюць і гэтак далей. Я думаю, што гэта спадчына з часоў НКУС, калі людзей расстрэльвалі маса і існавалі нейкія інструкцыі аб неразгалошванні, каб сваякі нават не ведалі месца пахавання. Я думаю, што гэта доўжыцца з часоў Курапатаў і застаецца і па сённяшні дзень», — тлумачыць каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» Андрэй Палуда.

Падпісаць петыцыю можна на сайце Change.org

**Паводле svaboda.org**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## ПАМЯТНЫ ЗНАК АФІЦЭРАМ ПОЛЬСКАЙ АРМІІ

**Марат ГАРАВЫ**

**Напрыканцы кастрычніка ва ўрочышчы Курапаты адбудзецца адкрыццё мемарыяльнага знаку ў гонар афіцэраў польскай арміі, забітых супрацоўнікамі НКУС на тэрыторыі Беларусі ў красавіку 1940 — чэрвені 1941 гадоў.**

Такое рашэнне было прынята на пасяджэнні грамадскага аргкамітэта па правядзенні Года памяці ахвяраў таталітарызму ў Беларусі.

Як адзначыў кандыдат гістарычных навук Ігар Кузняцоў, дакументы пра расстрэлы афіцэраў польскай арміі ў сталіцы і яе ваколіцах будзе цяжка знайсці, паколькі, напэўна, яны ўжо знішчаныя. «Аднак архіўныя дакументы Федэральнай службы бяспекі Расіі пацвярджаюць факт дастаўкі не менш за трох тысяч афіцэраў польскай арміі ў Мінск, на тэрыторыі і ў ваколіцах якога грамадскасцю ўстаноўлены больш за 10 месцаў масавых расстрэлаў ахвяраў сталінскага тэрору», — падкрэсліў навукоўца.

На цырымонію адкрыцця знаку будуць запрошаныя былыя вязні ГУЛАГу, прадстаўнікі амбасады Польшчы і дыпламатычных місій краін Еўразвязу, нефармальнага Саюзу палякаў на Беларусі, канфесій, беларускай грамадскасці, журналісты.

Былы вязень ГУЛАГу, каардынатар грамадскага аргкамітэта Уладзімір Раманоўскі адзначыў, што адкрыццё мемарыяльнага знаку стане часткай традыцыйнага штомесячнага ўшанавання ахвяраў сталінізму, якое пяць гадоў праводзіцца грамадскасцю ў Курапатах.

29 кастрычніка прадстаўнікі грамадскасці зробяць паездку па месцах масавых расстрэлаў ахвяраў сталінізму ў сталіцы і яе наваколлі, у тым ліку наведаюць Кальварыйскія могілкі, Курапаты, Лошыцу, Парк Чалюскінцаў і Трасцянец.

На 5 лістапада запланавана правядзенне ў Мінску круглага стала па праблемах захавання дакументальнай спадчыны найноўшай гісторыі Беларусі. Яно прымеркаванае да 95-годдзя бальшавіцкага перавароту ў Расіі ў кастрычніку 1917 года.

У межах марафону салідарнасці з палітвязнямі напрыканцы кастрычніка запланаваная сустрэча з былым вязнем ГУЛАГу Надзеяй Дземідовіч і прэзентацыя яе новай кнігі вершаў.

14 кастрычніка а 10.00 Курапаты наведаюць прадстаўнікі каталіцкай грамадскасці Мінска. На іх пытанні адкажуць гісторык Ігар Кузняцоў і мастак Анатоль Кузняцоў, які распісаў камяні ва ўрочышчы лікамі хрысціянскіх святых. Акрамя таго, з 24 кастрычніка на сталічнай сядзібе Партыі БНФ аднаўляецца праца кінаклубу «Невядомая Беларусь». На першай сустрэчы, якая адбудзецца а 17.00, запланаваны даклад Ігара Кузняцова «Рэпрэсіі на Беларусі ў XX стагоддзі. Трагічныя ўрокі гісторыі» і прэм'ера стужкі тэлеканалу «Белсат» «Цівалі: якія таямніцы хавалі ў магільніку для жывёлы».

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ДЗЕ ЎЗЯЦЬ ГРОШЫ?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У Аляксандра Лукашэнкі пачаўся час падвядзення вынікаў года. Звычайна ў такі час ён збірае прэс-тур замежных журналістаў, сустракаецца з айчыннымі кіраўнікамі СМІ, звяртаецца да народа. Але гэтым разам, здаецца, прэс-тураў не будзе. Аляксандр Лукашэнка вырашыў распавесці ўсё кожнаму паасобку.**



На тыдні Лукашэнка даў маштабныя інтэрв'ю тэлекампаніі «Мір» і брытанскім СМІ — газеце «The Independent» і тэлеканалу BBC.

Аднак навошта гэта, ніхто не зразумеў, бо нічога новага Лукашэнка не сказаў. Еўропа па-ранейшаму высоўвае Беларусі падвойныя стандарты. «На роўным месцы нам прад'яўляюць нейкія прэтэнзіі зыходзячы з двайных стандартаў, — сказаў афіцыйны лідар. — Няўжо наш беларускі рэжым больш жорсткі, чым, напрыклад, расійскі, і тэндэнцыі ў Беларусі горшыя, чым у Расіі? Але тым не менш яны Расію так, торкаюць, дзяўбаюць, як на ПАСЕ апошняй, але крануць баяцца, таму што засаўка ў руках расійскага кіраўніцтва: заўтра застануцца без прыроднага газу і нафты, і што тады?»

Аднак Еўропа, па словах Лукашэнкі, пайшла нават далей. «Нашы ўзаемаадносіны, Беларусі з Еўрапейскім саюзам, — гэта суцэльны, безупынны прыклад таго, як Еўрапейскі саюз хоча перавярнуць не толькі гісторыю, але і нашу краіну», — заявіў Лукашэнка.

Карацей, Еўропа сама вінаватая. Мы да іх з усёй ласкай — а яны да нас падвойныя стандарты.

Але з якой ласкай мы да Еўропы? З адной: «Дайце грошай». І на гэта кінуты немалыя сілы. Міністр эканомікі Мікалай Снапкоў узначаліў беларускую дэлегацыю, якая возьме ўдзел у штогадовым восеньскім пасяджэнні саветаў кіраўнікоў МВФ і Сусветнага банка ў Токіа з 12 па 14 кастрычніка. На штогадовых пасяджэннях дэлегацыі краін праводзяць сустрэчы і перамовы па шырокім коле эканамічных і фінансавых пытанняў з кіраўніцтвам міжнародных арганізацый і прадстаўнікамі замежных дзяржаў, а беларуская ўлады неаднаразова заяўлялі аб намеры атрымаць новы крэдыт ад МВФ.

Што тычыцца Расіі, то Лукашэнка таксама не бачыць прарываў. «Мы гатовы пакет акцый нейкі прадаць, а можа, цалкам завод, калі нам дадуць нармальную цану», — заявіў Аляксандр Лукашэнка ў інтэрв'ю тэлекампаніі «Мір», кажучы пра сітуацыю вакол беларускіх нафтаперапрацоўчых заводаў. «Пакуль па цане мы не дамовіліся, але працуюць яны ў інтарэсах нашых дзяржаў», — сказаў ён.

У той жа час, праблемы з нафтай абвастраюцца. Беларусь працягвае перамовы з Расіяй аб умовах пастаўкі нафты на 4 квартал 2012 года. Перамовы па нафце, па ўмовах яе пастаўкі ў 4 квартале гэтага года, паміж беларускім і расійскім бокам яшчэ працягваюцца», — сказаў «Інтэрфаксу» прадстаўнік «Белнафтахіма» і адзначыў, што ў канцэрне «падтрымліваюць прапановы расійскага боку», не ўдакладніўшы пры гэтым, пра якія менавіта прапановы ідзе гаворка.

То бок, тут таксама з грашыма праблема.

Не ўсё ў парадку з уступленнем Расіі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. Некаторыя эксперты вельмі занепакоеныя гэтым працэсам. Уступленне Расіі ў СГА пагражае спустошаннем адразу некалькіх ключавых галінаў беларускай эканомікі — ад лёгкай прамысловасці да вытворчасці алкаголю і індустрыяльнага сектара. У першую чаргу «эфект СГА» адчуе беларускае грузавое аўтамабілебудаванне. У агляднай перспектыве — вытворцы фармацэўтычнай прадукцыі, халадзільнікаў, тэлевізараў і г.д.

Пошліны на сельскагаспадарчую тэхніку знізяцца ў сярэднім на 5–10%, у выніку Беларусь можа страціць расійскі рынак сельгастэхнікі. Бо цяпер Расія не мае права перашкаджаць пастаўкам такой тэхнікі з іншых краін, адсюль — падзенне экспартнай выручкі. Гэта можа прывесці да банкруцтва вытворцаў сельгастэхнікі Беларусі.

Ужо з 22 жніўня беларускі Мінгандаль спыніў выдачу разавых ліцэнзій на імпарт алкагольнай прадукцыі — цяпер увозіць расійскую гарэлку ў краіну будзе значна прасцей. У Мінгандлі не хаваюць, што выдача разавых ліцэнзій адменена менавіта ў сувязі з уступленнем Расіі ў СГА і рашэннем Камісіі Мытнага саюза. Натуральна, у бліжэйшы час можна чакаць рэзкага росту імпарту алкагольнай прадукцыі.

Да працы ў новых умовах павінна рыхтавацца і мяса-малочная галіна. Расія ўзяла на сябе абавязацельствы па абмежаванні дзяржпадтрымкі сельскай гаспадаркі, і ў рамках АЭП яна будзе дамагацца аналагічных абмежаванняў і для саюзніка. У адваротным выпадку, ёй давядзецца абараняць свой рынак ад беларускай прадукцыі шляхам квотавання паставак.

Але наконт гэтага Лукашэнка нічога не кажа. Ён проста канстатаваў, што вострая неабходнасць уступлення ў Сусветную гандлёвую арганізацыю адпала пасля ўваходжання туды Расіі. «Мы фактычна працаваць будзем у межах Сусветнай гандлёвай арганізацыі, асабліва маю на ўвазе, што Расія — наш асноўны партнёр. Таму, можа, нават і лепш, што мы паступова, паступова прывыкнем да гэтых норм Сусветнай гандлёвай арганізацыі. Ад гэтага нікуды нам не дзецца. Мы не можам адгарадзіцца ад усяго свету, маючы такую эканоміку экспартна арыентаваную, і мы залежныя ад усяго свету, таму нам рана ці позна прыйдзецца ўступіць у СГА», — сказаў беларускі кіраўнік.

Што ж застаецца Беларусі? Грошай не даюць, пошліны ўводзяць, экспарту пазбаўляюць... Але ёсць эфектыўнае выйсце з гэтай сітуацыі!

Некаторыя эксперты не выключаюць, што ў чацвёртым квартале гэтага года сапраўды будуць выпушчаныя палітвязні, асабліва ў выпадку працягу эканамічнага ціску Масквы. Без гэтага, кажуць, Еўропа не пойдзе на змякчэнне падыходу да беларускіх уладаў, а іншыя малапрыкметныя крокі насустрач Захаду будуць мала каціравацца.

Не трэба нам выпускаць палітвязняў! Ні ў якім разе! Хай працуюць за кратамі, толькі ім для гэтага стварыць умовы трэба! Хай больш пішуць на Захад, хай працуюць над сабою! Вось, прыкладам, Алесь Бяляцкі. 28 верасня ён стаў лаўрэатам прэміі Леха Валенсы, а 9 кастрычніка ўвайшоў у шорт-ліст кандыдатаў на атрыманне прэміі Еўрапарламента імя Сахарава «За свабоду думкі».

Не ведаю, колькі там была прэмія Валенсы, але прэмія Еўрапарламента — 50 тысяч еўра. Улічым, што Бяляцкі наміnаваны і на Нобелеўскую прэмію міра. Калі ён ім стане — гэта яшчэ крыху больш за мільён долараў. Неслабы прыток валютных паступленняў у краіну!

І гэта — толькі адзін Бяляцкі. А калі стварыць такія ўмовы кожнаму беларускаму палітвязню? Дык тады ніякія крэдыты нам проста не спатрэбяцца. Палітвязні будуць асноўным рухавіком беларускай эканомікі.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ

50-гадовы беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі ўвайшоў у шорт-ліст кандыдатаў на атрыманне прэміі Еўрапарламента імя Сахарава «За свабоду думкі». Як паведамілі БелаПАН у прэсслужбе Еўрапарламента, у тройку кандыдатаў таксама ўвайшлі расійскі панк-гурт «Pussy Riot» і прадстаўнікі Ірана Насрын Сотудэ (адвакат) і Джафар Пана (рэжысёр).

Лаўрэат прэміі будзе названы 26 кастрычніка. За вылучэнне Бяляцкага на атрыманне прэміі падпісаліся ініцыятар вылучэння польскі дэпутат Яцэк Сарыюш-Вольскі і яшчэ 82 еўрапарламентара.

Прадстаўнікі Беларусі ўжо атрымлівалі прэмію імя Сахарава: у 2004 годзе яе ўручылі грамадскаму аб'яднанню «Беларуская асацыяцыя журналістаў», у 2006 годзе — экс-кандыдату ў прэзідэнты Аляксандру Мілінкевічу.

Віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, кіраўнік закрытага беларускімі ўладамі праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі абвінавачаны ва ўтойванні даходаў у асабліва буйным памеры. У лістападзе 2011 года суд прыгаварыў яго да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Падставай для крымінальнага пераследу праваабаронцы стала наяўнасць у яго рахункаў у банках Літвы і Польшчы. Суд не прыняў да ўвагі той факт, што грошы, якія паступалі на гэтыя рахункі, выкарыстоўваліся для праваабарончай дзейнасці. Не быў прыняты да ўвагі і той факт, што шкода, якую, па версіі суда, нанёс Бяляцкі, была цалкам сплачаная за кошт добраахвотных ахвяраванняў беларускіх грамадзян. Бяляцкі абвешчаны вязнем сумлення, яго вызвалення патрабуе міжнародная дэмакратычная грамадскасць, кіраўніцтва Еўрасаюза і ЗША.



### АНДРЭЙ БАНДАРЭНКА

Інфармацыйна-асветніцкая ўстанова «Платформа» пад кіраўніцтвам Андрэя Бандарэнкі, што займаецца пытаннямі выканання заканадаўства ў месцах пазбаўлення волі, будзе ліквідавана. Падставай для ліквідацыі праваабарончай арганізацыі стаў пазоў інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах Савецкага раёна Мінска. У адказ дырэктар «Платформы» Андрэй Бандарэнка спаслаўся на інструкцыю Міністэрства юстыцыі аб справаводстве, апеляваў да таго, што «Платформа» ўжо адказала за парушэнне, аператыўна яго выправіла і не нанесла гэтым парушэннем ніякай шкоды. Нягледзячы на гэтыя довады, суддзя Клюйко прыняў рашэнне аб ліквідацыі ІАУ «Платформа».

«Усе мы ўжо прывыклі да таго, якім чынам у нас прымаюцца рашэнні суда, асабліва калі гэтыя рашэнні датычацца праваабарончых арганізацый ці палітычных структур. Але цяпер мы на сваім прыкладзе можам даць міжнародным структурам інфармацыю пра тое, якім чынам у Беларусі ажыццяўляецца ціск на праваабарончыя арганізацыі, якім чынам у нас выконваецца міжнароднае права. І хай пасля гэтага пастаянны прадстаўнік пры міжнародных арганізацыях Міхаіл Хвастоў ці міністр замежных спраў Уладзімір Макей паспрабуюць у ААН або ў АБСЕ растлумачыць, якім чынам у Беларусі выконваюцца правы чалавека, і якім чынам праваабаронцы могуць свабодна ажыццяўляць сваю дзейнасць», — цытуе Бандарэнку БелаПАН.

«Платформа» была створана Андрэем Бандарэнкам пасля таго, як сам ён правёў за кратамі без малога два гады па абвінавачванні ў здзяйсненні эканамічнага злачынства. У сакавіку 2011 года Мінскі гарадскі суд прызнаў Бандарэнку невінаватым, а ў чэрвені ён заснаваў «Платформу».

### МІХАІЛ МЯСНІКОВІЧ

Беларусь плануе ствараць уласную вытворчасць касмічных спадарожнікаў. Пра гэта заявіў прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч у Мінску на сустрэчы з намеснікам кіраўніка Федэральнага касмічнага агенцтва Расіі (Роскосмас) Анатолем Шылавым.

«Мы не будзем абмяжоўвацца толькі адным апаратам, як і дамаўляліся раней, разгледзім пытанні, каб у Беларусі выраблялі спадарожнікі», — цытуе Мясніковіча дзяржаўнае агенцтва БелТА.

Такім чынам, Беларусь плануе не толькі працаваць у далейшым на касмічных апаратах, але і вырабляць адпаведную прадукцыю. «Гэта ў інтарэсах нашых дзяржаў і трэціх краін», — мяркуе прэм'ер-міністр.

Касмічны апарат — гэта не толькі навукова-тэхнічны прагрэс, але і камерцыя, адзначыў Мясніковіч. У сувязі з гэтым Беларусь імкнецца да камерцыялізацыі праекта.



ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# АПОШНЯЯ Ў ЕЎРОПЕ

Вольга ХВОІН

**10 кастрычніка адзначаецца Сусветны дзень супраць смяротнага пакарання. Беларускія праваабаронцы з гэтай нагоды зладзілі шэраг акцый. У прыватнасці, раздавалі інфармацыйныя матэрыялы пра тое, чаму смяротнае пакаранне мусіць быць адмененае ў Беларусі, быў прэзентаваны фільм «Убыл по приговору».**




Ініцыятыва штогод адзначаць дзень супраць смяротнага пакарання належыць Сусветнай кааліцыі па забароне смяротнага пакарання. Кааліцыя аб'ядноўвае каля сарака праваабарончых арганізацый, у тым ліку «Міжнародную амністыю», а таксама адвакацкія аб'яднанні, прафсаюзы, мясцовыя і рэгіянальныя органы ўлады. У верасні 2007 года Камітэт міністраў Савета Еўропы прыняў рашэнне заснаваць у рамках Сусветнага дня Еўрапейскі дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання. Бо менавіта Еўропа ад 1997 года дэ-факта з'яўляецца прасторай, вольнай ад смяротнай кары.

Сёння Беларусь — адзіная еўрапейская краіна, якая не ўваходзіць у Савет Еўропы. Асноўнай перашкодай для ўваходжання з'яўляецца наяўнасць у краіне смяротнага пакарання. У 1993 годзе беларускі парламент атрымаў статус спецыяльнага запрошанага ў Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ), але ўжо ў 1996 быў пазбаўлены гэтага статусу пасля рэферэндуму, які ўзаконіў смяротнае пакаранне.

«Убыл по приговору», — словы, якія чуюць сваякі расстраляных у сучаснай Беларусі. Гэта стандартная фраза, якой паведамляюць пра тое, што чалавек пакараны смерцю. «Убыл по приговору» — гэта казённая формула, адпаведнік слова «расстрэл», прыйшла ў сучасную Беларусь яшчэ з савецкіх інструкцый, дзе змяніла сумнавядомае «10 лет без права переписки».

«Убыл по приговору» — другі фільм, зняты ў межах кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі». Першы фільм «Прычына смерці — прочырк» быў прысвечаны праблеме нявыдачы цел сваякам расстраляных, а таксама ставіў пытанні: чаму дзяржава робіць таямніцу з выканання смяротных прысудаў, чаму ў пасведчанні аб смерці ў графе «прычына смерці» стаіць прочырк?

У фільме «Убыл по приговору» ўздымаецца праблема існавання катаў — людзей, якія ад імя дзяржавы прыводзяць у выкананне.

Рэжысёр фільма Віктар Трацякоў гаворыць, што тэма смяротнай кары цяжкая для асэнсавання і распрацоўкі, бо даводзіцца сустракацца з людзьмі, якія сутыкнуліся з фактам смяротнай кары. «І калі манціруеш фільм, глядзіш на гэтых людзей, многа разоў чуеш іх каментары, то, канешне, уключаецца ўяўленне, сам перажываеш усё глыбока. Пасля працы над такім матэрыялам патрэбны час, каб абстрагавацца», — прызнаецца рэжысёр. Віктар Трацякоў распавядае, што былы начальнік СІЗА №1 Алег Алкаеў, які стаў героем фільма, бо асабіста кіраваў выкананнем пакаранняў, прапануе не проста ладзіць інфармацыйныя кампаніі за адмену смяротнага пакарання, а сабраць неабходную колькасць подпісаў ды перадаць іх у парламент, тады дэпутаты будуць проста вымушаныя неяк рэагаваць на ініцыятыву.

Аўтарка сцэнару Паліна Сцепаненка распавяла, што ёсць задума стварыць шэсць кароткіх відэаролікаў, якія будуць распавядаць пра агульнавядомыя аргументы супраць смяротнай кары. Гэта, напрыклад, незваротнасць смяротнага пакарання — магчымасць судовай памылкі. Можна паводле рашэння суда забіць невінаватага чалавека, але ўваскрэсіць яго немагчыма. Чалавек не мае права забіраць жыццё іншага чалавека. Забойства — не правасуддзе. Адсутнасць прэвентыўнага эфекту — смяротнае пакаранне не папярэджвае новыя злачынствы і г. д.

Вядомы праваабаронца Гары Паганяйла падкрэслівае, што дзяржава не можа выносіць пытанне аб адмене смяротнага пакарання на рэферэндумы, бо гэта палітычнае рашэнне. А грамадства трэба выхоўваць. «Жыццё даказвае, што тыя, хто супраць смяротнай кары, маюць больш грунтоўных аргументаў, чым тыя, хто падтрымліваюць такі від кары», — гаворыць праваабаронца, які, між іншым, нарадзіўся ў лагеры, дзе адбывала тэрмін яго рэпрэсаваная маці. Таксама Гары Паганяйла звяртае ўвагу на тое, што людзі, якія выконваюць смяротнае пакаранне, як бы іх ні рыхтавалі да гэтай працы, у выніку маюць скалечаную псіхіку, бо «гвалт не прыносіць нічога пазітыўнага».

Паводле звестак «Міжнароднай амністыі» і кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі», за апошнія дваццаць гадоў у краіне пакарана смерцю больш за 400 чалавек.

ТРЭЦІ СЕКТАР

# ІРЫНА СУХІЙ

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Некалі адзін са стваральнікаў бессмяротных «Дванаццаці крэслаў» вельмі слушна заўважыў: не трэба змагацца за чысціню, трэба падмятаць. Гераіню чарговага нарыса можна аднесці менавіта да катэгорыі тых, хто «мяце», бо старшыня грамадскага аб'яднання «Экадом» Ірына Сухій займаецца сваёй справай не толькі ў тэорыі, але і на практыцы.**



## Нетыповы пачатак

Сапраўды, зразумець, чаму чалавек пасля двух гадоў вучобы на архітэктурным факультэце сталічнага Палітэху кідае ўсё і едзе ў Піцер, каб уладкавацца там звычайным дворнікам, вельмі цяжка. Ты не менш, шлях Ірыны Сухій у самастойнае жыццё пачаўся менавіта так.

Нарадзілася Ірына 16 ліпеня 1963 года. У Мінску, у наменклатурнай (яе словы) сям'і. Бацька, Георгій Андрэевіч, быў дырэктарам ЦУМа, а маці, Маргарыта Філіпаўна, — загадчыцай кафедры эканомікі гандлю Наргасу. Бацька (на жаль, з 1991 года яго з намі больш няма) нарадзіўся ў Княгініне Мядзельскага раёна Мінскай вобласці, а маці родам з Масквы.

Пазнаёміліся яе будучыя бацькі — студэнт Георгій і маладзейшая за яго на сем гадоў выкладчыца Маргарыта — у маскоўскім Наргасе, які насіў імя знакамітага марксіста Георгія Валянцінавіча Пляханава.

Старэйшы брат Ірыны Іван скончыў прэстыжны Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных адносінаў (МДМА), куды простаму смяротнаму трапіць было амаль немагчыма. Але справа тут была не толькі ў наменклатурным паходжанні брата. На мой погляд, паспяховаму паступленню тут паспрыялі яшчэ добрыя веды і школьны залаты медаль.

З залатым медалём закончыла школу і Ірына. Спачатку яна вучылася ў 103-й школе з англійскім ухілам, а потым перайшла ў 19-ю з матэматычным ухілам. Матывацыя жыццёвых пераменаў простая — схільнасць да матэматыкі, што пацвярджаецца яе перамогамі на шэрагу матэматычных алімпіяд. Паступленне на архітэктурны факультэт Політэхнічнага інстытута выглядае дастаткова лагічным рашэннем для матэматычнага складу розуму. Цяжка логікай усприймаецца тое, што адбылося далей.

Можна толькі спачуваць бацькам Ірыны, калі яны даведаліся пра ўцёкі дачкі ў Піцер. Нармальнае разумнае дзіця ўсё кідае і едзе за 800 кіламетраў ад роднага дома. Дзеля чаго?

Тым больш, што нават дворнікам уладкавацца ў Ірыны не атрымалася, бо ў яе яшчэ не было працоўнай кніжкі. Пратусаваўшыся (слова самой гераіні) там некалькі месяцаў, Ірына Сухій вярнулася ў Мінск і стала працаваць памочнікам фатографа. То бок вучыцца абсалютна новай для сябе справе.

Ёй прысвоілі адпаведны разрад, накіравалі працаваць у адно са сталічных фотаатэлье. Менавіта ў гэты момант, на асабістым досведзе, Ірына зразумела сэнс знакамітай фразы пра навучанне, якое — святло, а яго адсутнасць — цемра. Прычым, у натуральным афармленні. Бо яе работа заключалася ў друку фатаграфій з плёнак. То бок восем гадзін пры чырвоным святле.

Гэта была, мабыць, галоўная прычына, якая і падштурхнула Ірыну атрымаць усё ж такі вышэйшую адукацыю. Аднак аднаўляцца на старым месцы не стала, абраўшы абсалютна новы шлях. Яна паступіла на філалагічны факультэт БДУ на спецыяльнасць «руская мова і літаратура».

Але правучылася толькі некалькі гадоў, а потым зноў… З нейкімі хіпі паехала аўтастопам у Рыгу. Потым — у Маскву, дзе яе і знайшлі бацькі. Сказаць, што яны перажылі чарговы стрэс — нічога не сказаць. Адзінае, чаго дамагліся ад дачкі, — абяцанне гэты раз не кідаць вучобу і перавесціся на завочнае.

Што Ірына Сухій і зрабіла, і пайшла працаваць лабарантам у фотаклуб «Мінск» (па гэты дзень месціцца побач з вядомай крамай «Акіян»). Узначальваў яго, на жаль, ужо памерлы Уладзімір Лабко. Там была і студыя фатаграфіі, з якой выйшла шмат выдатных прадстаўнікоў сучаснага беларускага фота.

Уяўляю рэакцыю чытачоў на гэты кавалак жыцця Ірыны Сухій. Не буду ні з кім спрачацца. Адзначу толькі, што ў нашым жыцці часта агульнапрынятыя каштоўнасці не з'яўляюцца самымі лепшымі. А для некаторых і галоўнымі...

І яшчэ адно назіранне. Звычайна, нечага значнага ў жыцці дасягаюць тыя, хто аддае перавагу не ўтульнаму канфармізму, а крокам, якія многім падаюцца незразумелымі.

## Нетыповы працяг

Падвал, у якім месціцца фотаклуб «Мінск», добра вядомы не толькі прыхільнікам фота. У савецкія часы там збіраліся тыя, каго называлі нефармаламі. Дарэчы, у суседнім падвале працаваў мастаком-афарміцелем будучы складальнік «Народнага альбома», вядомы аўтар песень Міхал Амнепадыстаў.

Што тычыцца самой Ірыны Сухій, то нельга сказаць пра выпадковасць новага захаплення, бо ў яе характары заўсёды матэматычная дакладнасць суседнічала з арыгінальным творчым падыходам. Спалучэнне, якое даволі часта дае цікавыя вынікі.

Вынікам жа існавання нефармальнай тусоўкі з назвай «Беларускі клімат» стала выстава ў Чырвоным касцёле, дзе тады месціўся Дом кіно. Яна складалася з фатаграфій, жывапісных работ і розных інсталяцый. Потым аналагічныя выставы адбыліся не толькі ў Мінску, але і за мяжой.

У гэты час брат Ірыны Іван скончыў у МДМА «дацкае аддзяленне» і першы раз у жыцці трапіў у гэтую краіну з нейкай камсамольскай дэлегацыяй. Пашанцавала. Яны сустракаліся з дацкімі камуністамі і «левымі», якія задумалі акцыі «Next Stop — Soviet».

Для зашоранага светапогляду савецкіх людзей гэта было нечым суперрэвалюцыйным. На што могуць адважыцца толькі замежнікі. У тыя часы нават існаваў адпаведны тэрмін — еўракамунізм.

Перад гэтым дацкія «левыя» змагаліся з ядзернай зброяй, ужо правялі акцыю «Next Stop — Nevada» і вельмі спадзяваліся разбурыць «жалезную заслону». Планавалі зладзіць рок-канцэрт на Чырвонай плошчы Масквы. На сёння падобных прыкладаў ужо шмат, тады ж намер датчан быў успрыняты як нешта ірацыянальнае, залюстэркавае — 1988 год.

Самае цікавае, што аднымі размовамі датчане не абмежаваліся. Праз некалькі тыдняў купілі тур у Маскву і па прыездзе патэлефанавалі Івану, за што ў тыя часы (нягледзячы на перабудову) можна было нават страціць працу. Сярод іншага яны выказалі жаданне сустрэцца з маскоўскім нефармальным бамондам.

Зразумела, што ў Івана такіх кантактаў не было, і ён звярнуўся па дапамогу да сястры. Так Ірына зноў завітала ў Маскву.

У наступным годзе акцыя адбылася. У Савецкі Саюз прыехалі каля пяці тысяч замежнікаў, якія раз'ехаліся па ўсяму СССР. У адрозненне ад афіцыйных фестываляў моладзі і студэнтаў, якія гасцілі толькі ў сталіцы.

Арганізатары дайшлі нават да Гарбачова, і рок-канцэрт усё ж адбыўся. Праўда, не на Чырвонай плошчы, а на Ленінскіх гарах. Аднак і гэта было сапраўдным прарывам. Без двукосся.

Напэўна, пакаленню next аўтарскі піетэт будзе незразумелы, бо сёння адносіны паміж людзьмі (у тым ліку і замежнікамі) — звычайная справа, аднак раней усё гэта было нечым экстраардынарным. Усё роўна, што з цемры падвала вывесці чалавека на яркае сонечнае свята: спачатку ён будзе жмурыцца, а потым аглядацца і здзіўляцца асяроддзю.

Перабудова зрабіла з савецкімі людзьмі нешта падобнае. Да гэтага рок-музыка ўспрымалася афіцыйнай прапагандай ідэалагічна варожай.

## Нетыповы шлях

Лагічна было б дапусціць, што Ірына Сухій абярэ далейшую фатаграфічную кар'еру, што ў матэрыяльным плане было больш прыцягальным, але яна ў чарговы раз паламала агульнапрынятыя стэрэатыпы. І абрала абсалютна «няхлебны» (асабліва па тых часах) трэці сектар.

Новае захапленне прынесла шмат новых кантактаў, паездак. Падчас адной з іх Ірына Сухій і сустрэла на вакзале Святлану Каралёву, якая хутка стала каардынатарам акцыі «Next Stop — Soviet».

Гэта акцыя і стала падмуркам стварэння першай незалежнай беларускай арганізацыі трэцяга сектара — «Next Stop — New Live». Рэспубліканскае моладзевае грамадскае аб'яднанне з такой назвай было зарэгістравана беларускім Мінюстам 25 студзеня 1991 года.

Для ўважлівых чытачоў адзначу, што «Next Stop — New Live» пачало дзейнічаць яшчэ ў 1989 годзе як бы пры камсамоле (хаця і была для яго альтэрнатывай) і афіцыйная рэгістрацыя была непатрэбная. Праз два гады ўсё кардынальна змянілася.

Ачоліла «Next Stop — New Live» энергічная Святлана Каралёва, бо Ірына Сухій была тады ў дэкрэтным адпачынку. Калі яна зноў актыўна пачала працаваць, то спачатку курыравала чарнобыльскія праекты, а потым усе экалагічныя.

Калі пералічваць усе мерапрыемствы, якія праходзілі пад эгідай «Next Stop — New Live», спатрэбіцца вельмі шмат часу. Адзначым толькі адзін вельмі цікавы момант. Мерапрыемствы, якія ладзіла арганізацыя, мелі настолькі гучны грамадскі рэзананс, што былі заўважаныя на самым «версе». Толькі што абраны прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка быў вымушаны прысылаць ліст з падзякай «за фестываль «Новыя твары» і актыўную грамадскую дзейнасць».

**Сёння ў беларускай сталіцы дрэвы гінуць яшчэ і па прычыне таго, што тыя, хто называе іх «зялёнымі насаждениями», яшчэ і загадваюць іх сячы**



## Нетыповы выбар

З часам у рамках «Next Stop — New Live» стала крыху цесна, у тым сэнсе, што нематывацыі ахапіць неахопнае. У 1996 годзе з'явіўся «Экадом». У дакументах аб рэгістрацыі асобнай структуры стаяла вельмі знакавая для эколагаў (і самой прыроды) дата — 21 чэрвеня. Дзень летняга сонцастаяння.

Шчыра кажучы, шмат хто ў нашым грамадстве ставіцца да беларускіх эколагаў даволі скептычна. Маўляў, да рэк перад цягнікамі сябе не прыкоўваюць і паляванню на кітоў не перашкаджаюць. З аднаго боку, не пагадзіцца з гэтым цяжка. З другога — мэтазгодна такое ў нашых умовах ці не? На мой погляд, пакуль не. На жаль...

Калі я толькі пачынаў свой журналісцкі шлях, адзін з мэтраў спытаў: «Юнак, ведаеш, ад чаго гінуць дрэвы?» І сам адказаў: «Ад таго, што некаторыя называюць іх «зялёнымі насаждениями»».

Сёння ў беларускай сталіцы дрэвы гінуць яшчэ і па прычыне таго, што тыя, хто называе іх «зялёнымі насаждениями», яшчэ і загадваюць іх сячы. Прыкладаў таму мноства. Дастаткова ўзгадаць толькі парк імя 40-годдзя Кастрычніка і сталічны мікраёэн «Уручча». Каб не юрыдычная дапамога (у тым ліку і «Экадома»), бензапілы там працавалі б значна больш.

Перафразуем словы знакамітага кітайскага філосафа і адзначым, што цяжка шукаць логіку там, дзе яе няма. Ніколі не думаў, што ў краіне, якая пацярпела ад Чарнобыля, пачнуць будаваць сваю атамную станцыю. Як і не думаў, што бараніцца ад гэтага пачнуць толькі лічаныя адзінкі... Цалкам нетыповы і нелагічны выбар...

Ірына Сухій — сярод змагароў. Штраф за ліст да расійскага прэм'ера наконт будаўніцтва Астравецкай АЭС — красамоўнае таму пацверджанне. Але сумна не толькі ад гэтага. Сумна ад таго, што адным трэба супрацьстаяць уладзе, а другім не. Падобна на тое, што сёння праблемы ў людзей не толькі з экалогіяй, але і з асабістым светапоглядам. Палітычная арытмія...

▸ **РАБОЧЫ РУХ**

# ЭРОЗІЯ СІСТЭМЫ ПРАЦОЎНЫХ АДНОСІНАЎ

**Летась, калі насельніцтва Беларусі сутыкнулася з пагаршэннем матэрыяльнага дабрабыту, эксперты і палітыкі чакалі, што гэта справакуе на актыўныя дзеянні рабочых. Але лакальныя канфлікты ў працоўных калектывах пачалі з'яўляцца напрыканцы 2011-га ды сёлета. Калі і з якой нагоды рабочыя пайшлі ў незалежныя прафсаюзы, і як доўга будзе цягнуцца «агонія» рэжыму? Гэтыя тэмы абмяркоўвалі Аляксей Кароль і Вольга Хвоін з лідарам асацыяцыі прафсаюзаў «Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў» Аляксандрам ЯРАШУКОМ.**



Фота аўтара

Аляксандр Ярашук

*Аляксандр Ярашук:* Наша арганізацыя прадстаўленая на дзясятку прадпрыемстваў, таму мы добра ведаем, чым жывуць рабочыя. І мы бачылі, што летась не было такога градусу пратэсту, сацыяльнай напружанасці, якія маглі б трансфармавацца ў акцыі пратэсту. Я б хацеў тут заступіцца за беларусаў і нашых рабочых. Сфармавалася меркаванне пра абыякавасць, недзеяздольнасць і гэтак далей. Але ўсё тлумачыцца эканомікай. Так, заробак тады скараціўся ў 2,5 разы, але ўзровень жыцця так імгненна не ўпаў. Цэны стрымліваліся ўрадам, на руках у людзей былі валютныя зберажэнні. Але з часам цэны, натуральна, давялося адпусціць, і ранейшы ўзровень заробкаў перастаў забяспечваць элементарныя патрэбы. Эканамічнае становішча ў краіне кардынальна адрозніваецца ад таго, што мы мелі да 2010 года. І ў кіраўніцтва Беларусі няма ніводнага шанцу развярнуць усё ў зваротны бок. Асабліва на фоне ў разы вышэйшых заробкаў у Расіі, з якой у нас агульная эканамічная прастора. Гэта моцна ўдарыла па іміджу ўлады, бо беларускую мадэль доўгі час прыводзілі ў прыклад як паспяховую. Я на днях размаўляў з нашым прадстаўніком Лукомльскай ГРЭС, ён распавёў, што рабочыя станцыі масава звальняюцца і едуць працаваць у Расію, дзе ім прапануюць мінімум у пяць разоў большы заробак. І гэта тычыцца многіх рабочых спецыяльнасцяў — едуць будаўнікі, кіроўцы, рабочыя, інжынеры. Адзначу, едуць прафесіяналы, найбольш актыўныя людзі. У камандна-адміністратыўнай сістэме без эканамічнай лібералізацыі, без мадэрнізацыі мы не маем шанцу стварыць канкурэнтаздольную сістэму.

***Аляксей Кароль:* Вы маеце інфармацыю, які працэнт беларусаў цяпер зарабляе сабе на жыццё па-за межамі краіны?**

*А. Я.:* Сцвярджаюць, што ў краіне 0,6% беспрацоўных, але гэта мана. І сапраўднай лічбы мы не ведаем, як і колькасці тых, хто з'ехаў у працоўную міграцыю. Мяркую, што сапраўдная лічба беспрацоўных у межах 7–10%. Куды аднесці тых, хто з'ехаў? Відаць, таксама можна было б іх запісаць у лік беспрацоўных тут. Колькасць тых, хто з'ехаў з Беларусі, ацэньваюць па-рознаму: ад 300 тысяч да мільёна чалавек. Найбольш людзей хіба што з'язджае ў Расію, бо няма межаў, моўнага бар'еру, ментальных перашкодаў.

***Вольга Хвоін:* Ці ёсць нейкія выразныя тэндэнцыі ва ўзаемаадносінах «рабочы — наймальнік»?**

*А. Я.:* Цяпер назіраецца эрозія сістэмы працоўных адносінаў. Гэты працэс набірае дынаміку — людзі не вераць уладзе, Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, якая не выконвае сваіх асноўных функцый па абароне правоў рабочых. І кропкава гэта выліваецца ў сітуацыі, як на «Граніце», дзе людзі масава напісалі заявы на сыход з ФПБ ды заснавалі суполку незалежнага прафсаюзу. І я вам скажу, што лідары незалежнага прафсаюзнага руху маглі б дамагчыся, каб усе рабочыя прадпрыемства — а гэта больш за тры тысячы чалавек! — выйшлі з афіцыйнага прафсаюзу. Але, можа, яны і правільна не пайшлі на такі крок, каб не падвесці столькі людзей пад рэпрэсіі.

Два тыдні таму ў Полацку на вінзаводзе каля двухсот работнікаў заявілі, што выходзяць з ФПБ, каб перайсці ў незалежны прафсаюз, — 37 чалавек напісалі нам адпаведныя заявы. Двух завадатараў адміністрацыя звольніла. Гэта людзі, якія спантанна выйшлі на нашу суполку на прадпрыемстве «Полацк — Шкловалакно». Я не падводжу да таго, што заўтра мы пабачым масавы рух прафсаюзаў. Мы маем справу з моцным аўтарытарным рэжымам, але гэты рэжым цягам столькіх гадоў не змог справіцца са сваім галоўным ворагам — эканомікай. І таму я з'яўляюся аптымістам, калі разважаць пра магчымасць беларусаў уплываць на сваю будучыню.





***В.Х.:* Нядаўна адбыўся санкцыянаваны пікет Беларускага прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП). Разам з тым міліцыя затрымала на вуліцы мастакоў з рознакаляровымі кубікамі. Дзе логіка паводзінаў улады?**

*А. Я:*. Улады дазволілі пікеты, бо ў лістападзе будзе чарговае пасяджэнне адміністрацыйнай рады Міжнароднай арганізацыі працы (МАП). І прадстаўнікі Беларусі будуць вымушаныя рабіць справаздачу, але ў іх няма нічога пазітыўнага ў партфелі, суцэльны негатыў — канфлікты з працоўнымі на «Граніце», «Нафтане»... У свой час менавіта з пазіцыі МАП Еўрасаюз адклікаў гандлёвыя прэферэнцыі для Беларусі. Цяпер будзе хоць адзін пазітыўны факт, які можна агучыць на пасяджэнні, — дазволілі пікет. Усе апошнія гады наш урад хоча пераканаць МАП, што ў Беларусі ёсць прагрэс у дачыненнях працадаўцаў і рабочых. Таксама вы ж бачыце, што адбываецца чарговы этап разгойдвання геапалітычных арэляў. Проста неабходныя хоць якія станоўчыя прыклады ўзаемадачыненняў з прафсаюзамі.

***В. Х.:* Цягам апошніх гадоў у крызісны перыяд, паводле логікі, колькасць вашых прыхільнікаў мусіла істотна павялічыцца. Ці паболела сябраў у незалежных прафсаюзах?**

*А. Я.:* Мусім быць рэалістамі. Я штогод падчас канферэнцыі МАП нагадваю: беларускія прафсаюзы, як і грамадскія аб'яднанні, палітычныя партыі, знаходзяцца ў рэзервацыі. Яшчэ ў 1999 годзе была ўведзена дазваляльная сістэма рэгістрацыі прафсаюзаў. І за гэты час мы ніводнай суполкі не змаглі легалізаваць. Таму вельмі важна, што за апошнія шэсць-сем гадоў не зменшылася колькасць нашых сябраў. Тым больш, шырока вядома пра магчымасць уплыву на рабочых праз кароткатэрміновыя кантракты. Атрымліваецца так, што адны ад нас сыходзяць, іншыя — прыходзяць. А незалежны прафсаюз гарнякоў цягам апошніх гадоў павялічыў колькасць сябраў на трациіну. Толькі ў апошнія месяцы да нас прыйшло некалькі соцень людзей, але з-за ціску адміністрацый прадпрыемстваў, бадай, столькі ж сышло з незалежных прафсаюзаў.

***В. Х.:* Вас не расчараваў прафсаюзны рух на прадпрыемстве «Граніт»? Ад ініцыятывы гэтых людзей чакалі моцнай, рашучай хвалі салідарнасці ў рабочых калектывах.**

*А. Я.:* «Граніт» не пацярпеў паразу. На наш погляд, той факт, што яны дагэтуль спрабуюць зліквідаваць суполку незалежнага прафсаюзу, сведчыць акурат пра перамогу ў поўным сэнсе. Дзякуючы намаганням незалежнага прафсаюза некалькі месяцаў таму на «Граніце» падвысілі заробкі рабочым, цяпер восць спрабуюць адкруціць назад. Агулам сітуацыя з аплатаю працы на «Граніце» парадаксальная — гэта другое па велічыні прадпрыемства такога профілю ў Еўропе, фактычна манапаліст, але атрымліваецца, што годны заробак там плаціць не здольныя. Важна, што асобы, якія ўзначалілі гэты рух, маюць добрую адукацыю, кампетэнтнасць і аўтарытэт у вачах мясцовых людзей, чаго не скажаш пра мясцовыя ўлады. Да слова, першапачаткова нагодаю канфлікту сталася хамскае стаўленне кіраўніцтва прадпрыемства да рабочых, а не заробкі. Мы бачым адпаведны ўзор паводзінаў у вышэйшым кіраўніцтве краіны. І вось цалкам гэтыя сітуацыі ілюструюць агонію беларускага рэжыму. Думаю, 2015 год проста так не міне.

***В.Х.:* Але нядаўна ўладальнік «Дарыды» Дзялендзік намякнуў у інтэрв'ю, што калі ўлада і зменіцца ў Беларусі, то не палітычным шляхам. Вы падзяляеце меркаванне, што беларускі народ не ўплывае на такія глабальныя працэсы ў дзяржаве?**

*А. Я.:* Мне б не хацелася, каб у Беларусі ўсё вырашалася праз рэвалюцыйную сітуацыю. Многае залежыць ад паводзінаў Расіі ў дачыненні да Беларусі, наколькі яна будзе гатовая падстаўляць сваё плячо. Хто прыйдзе на змену? Велізарная рэдкасць, калі недэмакратычныя рэжымы саступалі месца прасунутай дэмакратыі. Магчымы і варыянт, калі мы атрымаем наступствы яшчэ больш цяжкія, чым маем цяпер. Я мяркую, што нам цяпер трэба найперш думаць пра тое, што будзе потым. Як адчыніць дзверы для Беларусі ў якасна іншы свет, іншы стан. Але пра выбары разважаць усур'ёз на тле апошніх парламенцкіх было б наіўна, бо выбараў даўно няма. І я б не выключаў таго, што на сітуацыю можа нечакана паўплываць наменклатура. Вось літаральна на днях размаўляў з дасведчаным чалавекам пра стан нашага аграпрамысловага комплексу — няма ні капейкі ў саўгасаў. У такой сітуацыі фактар наменклатуры можа адыграць сваю ролю. Зразумела, што праз ману на кожным кроку Расія стамілася ад Лукашэнкі, які хай сабе і лаяльны...

***А. К.:* Ці супрацоўнічаеце з палітычнымі структурамі?**

*А. Я.:* Мы перажывалі розныя перыяды. Быў час сур'ёзнай палітызаванасці незалежных прафсаюзаў, але гэта не зусім правільна, бо прафсаюзы ўсё ж — не палітычная структура. Калі ж мы захапляемся палітычнай дзейнасцю, то губляем канкурэнтаздольнасць на сваім прафсаюзным полі. І той факт, што мы змаглі адмовіцца ад залішняй палітызаванасці, прывёў да паляпшэння якасці нашай працы. Да слова, улады спрабуюць нас падвесці пад палітычную дзейнасць, у такім выпадку мы б пачуваліся, што карова на лёдзе, і былі б больш уразлівымі. Таму стратэгія такая: мы зацікаўленыя, каб нашы сябры ўдзельнічалі ў жыцці самых розных партый. У нас былі выпадкі, калі з прапановамі заключыць дамову аб супрацоўніцтве прыходзілі розныя палітыкі. Але Рада на падобныя ідэі адказала: ці з усімі, ці ні з кім.

***А. К.:* Як на гэтых выбарах дзейнічаў рабочы клас?**

*А. Я.:* Ніяк. Нашы арганізацыі найперш прадстаўленыя на прадпрыемствах нафтахімічнага комплексу, таму нам вядома, што было абыякавае стаўленне. Мы сыходзілі з таго, што выбараў у Беларусі даўно няма. Таму ўдзел у гэтым дазвале ўладзе легалізавацца, а байкот меў на ўвазе, што выбары быццам бы ёсць. З'яўляецца прадмет дыскусіі: былі выбары ці не? Мая прынцыповая пазіцыя: у цяперашніх умовах нельга нават весці размоў пра выбары. Значная частка нашага актыву салідарная з гэтай думкай. Таму мы нават маніторынгам не займаліся.

***А. К.:* Ці ёсць у вас кантакты з афіцыйнымі прафсаюзамі?**

*А. Я.:* Мы размяжоўваем Федэрацыю прафсаюзаў Беларусі і яе кіраўніцтва. Думаю, вы пагодзіцеся са мною, што так не бывае: Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі да 15 ліпеня 2002 года была прагрэсіўнай, а пасля прызначэння яе кіраўніком Козіка стала кансерватыўнай, рэакцыйнай арганізацыяй. Людзі ж засталіся тыя самыя! І я перакананы, што ўнутры ФПБ ёсць нямала прагрэсіўных людзей, якія спрабуюць рабіць нешта карыснае для іншых. У кіраўніцтве ж федэрацыі мы акурат бачым асобаў, што выконваюць ролю абароны дзяржавы ад працоўных, а мусіць быць наадварот.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 15 КАСТРЫЧНІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Вакол планеты.
**11.25** Журналісцкае расследаванне.
**12.15** Камедыя «Як абрабаваць банк» (ЗША).
**13.50** Зямельнае пытанне.
**14.25** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.30** Драма «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**17.35** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.30** Камандзіроўка.
**18.45, 23.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Прэм'ера. Камедыйны серыял «Матулі» (Расія). 1-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Форум.
**22.45** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**00.05** Дзень спорту.
**00.20** Камедыя «Як абрабаваць банк» (ЗША).

---

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** АНТ прадстаўляе: «Сардэчна запрашаем у Беларусь».
**12.05** Прэм'ера. «На край свету». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера сезону «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Меладрама «3 табой і без цябе».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.55** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адчынены фармат».
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** «Вячэрні Ургант».
**23.50** «Без сведак».
**00.20** «Забойная сіла». Шматсер. фільм.
**01.20** Начныя навіны.

---

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.20** «Гарады, што спяваюць».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Іншая краіна».
**15.00** Канцэрт М.Задорнава.
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.35** «Стацкі дараднік». Тэлесерыял.
**21.45** Прэм'ера! «Кніжная гісторыя».
**22.20** «Гарады, што спяваюць».
**22.55** «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**00.05** «Пякельная кухня».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.45** Бітва экстрасэнсаў.
**11.50** Дэтэктыў «Справа Румянцава».
**14.15** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.50** Прэм'ера. Камедыйны серыял «Дзяўчонкі» (Расія).
**15.30** Беларуская часіна.
**16.35** Меладраматычны дэтэктыў «Сяброўка адмысловага прызначэння».
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Баскетбол. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Авертайм.
**22.00** Меладраматычны дэтэктыў «Сяброўка адмысловага прызначэння».
**23.10** Камедыйны серыял «Дзяўчонкі» (Расія). 1-я серыя.
**23.45** Крымінальны баявік «Дрэнь» (СССР).

**РОССИЯ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Кахаю, не магу!».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Шукальнікі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Пятая група крыві».
**22.20** Тэлесерыял «Жыццё і лёс».
**23.50** Навіны - Беларусь.
**00.00** «Алсіб. Сакрэтная траса».

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** «Праграма Максімум».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Інспектар Купер».
**21.25** Серыял «Пятніцкі. Раздзел другі».
**23.15** Сёння. Вынікі.
**23.40** Серыял «Прачнемся разам?».

**EUROSPORT**

**01.00** Аўта і Мотаспорт: Мотаспартыўны часопіс.
**01.15** Тэніс: «Матс пойнт».
**01.45** Тэніс: Турнір WTA. Лінц - Фінал.
**09.30** Мотаспартыўны часопіс.
**09.45** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія. Беларусь - Іспанія.
**10.30** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія. Арменія - Італія.
**11.15** Тэніс: Турнір WTA. Лінц - Фінал.
**12.00** Тэніс: Турнір WTA. Масква. Дзень 1.
**15.45** Тэніс: «Матс пойнт».
**16.15** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія. Сербія - Бельгія.
**16.45** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія. Ірландыя - Германія.
**17.30** Тэніс: Турнір WTA. Масква. Дзень 1.
**19.30** Футбол.
**19.45** Дартс: Фінал.
**20.45** Цяжкая атлетыка: прэзідэнцкі кубак - Мужчыны. +105кг.
**21.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**22.00** Пра рэстлінг.
**22.30** Пра рэстлінг.
**23.30** Баявыя мастацтвы.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**07.45** Навігатар.
**08.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.25** Дакументальная гадзіна: «Пекін ад золку да змяркання», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**09.10** Два на два (тэледыскусія).
**09.35** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.00** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**18.10** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**18.15** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Цюхця, што ты за стварэнне?!».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** «Апантаныя-2», дак. цыкл.
**19.45** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.25** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Не прапусці! (парааднік гледача).
**21.45** Фільматэка майстроў: «Навука сну», маст. фільм, 2006 г., Францыя.
**23.30** Аб'ектыў.
**23.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**00.15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 16 КАСТРЫЧНІКА, АЎТОРАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія). 1-я серыя.
**10.15** Камандзіроўка.
**10.25** Таямніцы следства.
**10.55** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правілаў» (Расія).
**12.15** Рэальны свет.
**13.25** Дакументальны серыял «Будзь у тонусе!» (Аўстралія).
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.20** Медычныя таямніцы.
**16.45** Дакументальны серыял «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**17.30** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Украіна).
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія). 2-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правілаў» (Расія).
**23.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Рэальны свет.

---

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Прэм'ера. «Танна і злосна».
**12.05** Прэм'ера. «На край свету». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера сезону «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смеху дзеля».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Чкалаў». Шматсер. фільм.
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.35** «Вячэрні Ургант».
**00.10** «Без сведак».
**00.40** «Забойная сіла». Шматсер. фільм.
**01.40** Начныя навіны.

---

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Жыць будзеце».
**08.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**09.00** «Стацкі дараднік». Тэлесерыял.
**10.00** «Следакі». Серыял.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.50** Фільм «Дзённікі няні». ЗША, 2007 г.
**15.45** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Кніжная гісторыя».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.35** «Стацкі дараднік». Тэлесерыял.
**21.45** Прэм'ера! «Кніжная гісторыя».
**22.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**22.55** «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Аўтапанарама».
**23.30** «Дэтэктыўныя гісторыі».
**00.00** «Доктар Тырса». Серыял.
**00.50** «Прагнасць».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**10.10** Цела чалавека.
**10.45** Авертайм.
**11.20** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.10** Школа рамонту.
**13.15** Драма «Сын за бацьку».
**14.55** Камедыйны серыял «Дзяўчонкі» (Расія). 2-я серыя.
**15.35** Беларуская часіна.
**16.40** Меладраматычны дэтэктыў «Сяброўка адмысловага прызначэння».
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.50** Футбол. Адборачны матч чэмпіянату свету 2014 г. Беларусь - Грузія. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Меладраматычны дэтэктыў «Сяброўка адмысловага прызначэння».
**22.40** Серыял «Дзяўчонкі». 2-я серыя.
**23.20** Драма «Сын за бацьку».

**РОССИЯ**

**07.00** Фільм «Жаночая інтуіцыя».
**09.15** «Мая планета».
**10.00** «Усё будзе добра!».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Лорд. Сабака-паліцыянт».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Пятая група крыві».
**22.20** Тэлесерыял «Жыццё і лёс».
**00.10** Навіны - Беларусь.
**00.20** «Адмысловы карэспандэнт».

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.05** «Да суду».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Інспектар Купер».
**21.25** Серыял «Пятніцкі. Раздзел другі».
**23.15** Сёння. Вынікі.
**23.40** Серыял «Прачнемся разам?».

**EUROSPORT**

**00.30** Тэніс: Турнір WTA. Масква. Дзень 1.
**01.30** Цяжкая атлетыка: прэзідэнцкі кубак - Мужчыны. +105кг.
**09.30** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія. Сербія - Бельгія.
**10.15, 16.45** Футбол.
**10.30** Тэніс: Турнір WTA. Масква. Дзень 1.
**12.00** Тэніс: Турнір WTA. Масква. Дзень 2.
**15.45** Цяжкая атлетыка: прэзідэнцкі кубак - Мужчыны. +105 кг.
**17.00** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія. Беларусь - Іспанія.
**17.45** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія. Ірландыя - Германія.
**18.30** Футбол.
**19.30** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія. Іран - Паўднёвая Карэя.
**21.30** Цяжкая атлетыка: прэзідэнцкі кубак - Мужчыны. +105 кг.
**22.30** Дартс: Фінал.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** «Апантаныя-2», дак. цыкл.
**07.40** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Эксперт.
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Не прапусці! (парааднік гледача).
**09.40** Еўропа сёння.
**17.55** «Апантаныя-2», дак. цыкл.
**18.10** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**18.15** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** Відзьмо-невідзьмо.
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.30** Асабісты капітал.
**20.50** Вагон.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**21.40** «Глыбокая вада», серыял: 6 серыя.
**22.30** Форум (ток-шоу).
**23.15** Аб'ектыў.
**23.40** Невядомая Беларусь: «Цівалі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**00.10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 17 КАСТРЫЧНІКА, СЕРАДА

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія). 2-я серыя.
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.25** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**10.55** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правілаў» (Расія).
**12.15** Рэальны свет.
**13.25** Дакументальны серыял «Самабытныя культуры» (Германія).
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.25** Каробка перадач.
**17.00** Заўтра - гэта мы!
**17.35** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.30** Адмысловы рэпартаж.
**18.45, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія). 3-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правілаў» (Расія).
**23.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Рэальны свет.

**ОНТ**

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Прэм'ера. «Танна і злосна».
**12.05** Прэм'ера. «На край свету». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера сезону «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смеху дзеля».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Чкалаў». Шматсер. фільм.
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.35** «Вячэрні Ургант».
**00.10** «Без сведак».
**00.40** «Забойная сіла». Шматсер. фільм.
**01.40** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**09.00** «Стацкі дараднік». Тэлесерыял.
**10.00** «Следакі». Серыял.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.50** «Не хлусі мне!».
**14.45** «Доктар Тырса». Серыял.
**15.35** «Гадзіна суду».
**16.50** «Кніжная гісторыя».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.35** «Стацкі дараднік». Тэлесерыял.
**21.45** Прэм'ера! «Кніжная гісторыя».
**22.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**22.55** «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Дабро пажаліцца».
**23.30** «Мінск і мінчане».
**00.00** «Доктар Тырса». Серыял.
**00.50** «Дзіўная справа».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**10.10** Наперад у мінулае.
**10.50** «На кожны гук ёсць рэха на зямлі…». Дакументальны фільм.
**11.45** Вышэйшая мера.
**12.30** Фантастычная прыпавесць.
**14.50** Серыял «Дзяўчонкі». 3-я серыя.
**15.30** Беларуская часіна.
**16.35** Меладраматычны дэтэктыў «Сяброўка адмысловага прызначэння».
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**19.25** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**21.45** Спортлато 5 з 36.
**21.50** КЕНО.
**21.55** Тэлебарометр.
**22.00** Меладраматычны дэтэктыў «Сяброўка адмысловага прызначэння».
**23.10** Серыял «Дзяўчонкі». 3-я серыя.
**23.45** Фантастычная прыпавесць.

**РОССИЯ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Усё будзе добра!».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Лорд. Сабака-паліцыянт».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Пятая група крыві».
**22.20** Тэлесерыял «Жыццё і лёс».
**23.55** Навіны - Беларусь.
**00.05** «Блізкі Далёкі. Прадчуванне лёсу».

**НТВ**

**06.00** «Таямнічая Расія».
**06.50** «Дачны адказ».
**07.45** «Іх норавы».
**08.25** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.30** «Выратавальнікі».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Развод па-руску».
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Інспектар Купер».
**21.25** Серыял «Пятніцкі. Раздзел другі».
**23.15** Сёння. Вынікі.
**23.40** Серыял «Прачнемся разам?».

**EUROSPORT**

**00.00** Аўта і Мотаспорт.
**00.15** Ралі.
**00.45** Аўтагонкі.
**01.15** Аўтагонкі.
**02.15** Аўта і Мотаспорт: Мотаспартыўны часопіс.
**09.30** Футбол.
**09.45** Аўта і Мотаспорт.
**10.00** Чэмпіянат свету ў класе Турынг.
**10.30** Тэніс: Турнір WTA. Масква. Дзень 2.
**12.00** Тэніс: Турнір WTA. Масква. Дзень 3.
**15.45** Футбол.
**16.00** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія. Бельгія - Шатландыя.
**16.45** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія. Румынія - Нідэрланды.
**17.30** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія. Польшча - Англія.
**18.30** Футбол.
**19.30** Тэніс: Турнір WTA. Масква. Дзень 3.
**21.30** Усе віды спорту: Абранае па серадах.
**21.35** Конны спорт: Осла. Спаборніцтвы па скачках.
**22.35** Конны спорт: Навіны коннага спорту.
**22.40** Гольф: Тур PGA.
**23.40** Гольф: Еўрапейскі тур.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Відзьмо-невідзьмо.
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Асабісты капітал.
**08.50** Вагон.
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат».
**09.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.00** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**18.15** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Таямніца шыфру Марабу».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** Беларусы ў Польшчы.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**20.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**21.45** «Праведнікі», тэлесерыял: 5 серыя.
**22.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**22.55** Аб'ектыў.
**23.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**23.50** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 18 КАСТРЫЧНІКА, ЧАЦВЕР

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія). 3-я серыя.
**10.15** Адмысловы рэпартаж.
**10.25** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**10.55** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правілаў» (Расія).
**12.10** Рэальны свет.
**13.20** Культурныя людзі +.
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Серыял «Добры дзень, мама!».
**16.20** Перазагрузка.
**17.05** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**17.35** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.30** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія). 4-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правілаў» (Расія).
**23.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Рэальны свет.

**ОНТ**

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Прэм'ера. «Танна і злосна».
**12.05** Прэм'ера. «На край свету». Шматсерыйны фільм. Заключная серыя.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера сезону «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смеху дзеля».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Чкалаў». Шматсерыйны фільм. Заключная серыя.
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** Гандбол. Ліга Чэмпіёнаў.
**00.00** «Без сведак».
**00.30** «Забойная сіла». Шматсер. фільм.
**01.30** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Дабро пажаліцца».
**08.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**09.00** «Стацкі дараднік». Тэлесерыял.
**10.00** «Следакі». Серыял.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.50** «Не хлусі мне!».
**14.45** «Доктар Тырса». Серыял.
**15.35** «Гадзіна суду».
**16.50** «Кніжная гісторыя».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.35** «Стацкі дараднік». Тэлесерыял. Заключная серыя.
**21.45** Прэм'ера! «Кніжная гісторыя».
**22.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**22.55** «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Аўтапанарама».
**23.30** «Цэнтральны рэгіён».
**00.00** «Доктар Тырса». Серыял.
**00.50** «Хораша жыць».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**10.10** Вышэй за дах.
**10.45** Страсці па культуры.
**11.25** Вышэйшая мера.
**12.30** Баявік «Усё павінны памерці» (Расія).
**14.50** Камедыйны серыял «Дзяўчонкі» (Расія). 4-я серыя.
**15.30** Беларуская часіна.
**16.35** Меладраматычны дэтэктыў «Сяброўка адмысловага прызначэння».
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Прыгодніцкі баявік «Атрад» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Час футболу.
**22.15** Меладраматычны дэтэктыў «Сяброўка адмысловага прызначэння».
**23.20** Серыял «Дзяўчонкі». 4-я серыя.
**23.55** Баявік «Усё павінны памерці» (Расія).

**РОССИЯ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Усё будзе добра!».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Лорд. Сабака-паліцыянт».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Пятая група крыві».
**22.20** Тэлесерыял «Жыццё і лёс».
**23.55** Навіны - Беларусь.
**00.05** «Паядынак».

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі..».
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.10** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Інспектар Купер».
**21.25** Дэтэктыўны серыял «Пятніцкі. Раздзел другі».
**23.15** Сёння. Вынікі.
**23.40** Серыял «Прачнемся разам?».

**EUROSPORT**

**00.10** Гольф: Гольф Клуб.
**00.15** Усе віды спорту.
**00.20** Ветразевы спорт.
**00.50** Усе віды спорту.
**00.55** Ветразевы спорт: Яхт клуб.
**01.00** Усе віды спорту: Абранае па серадах.
**01.05** Футбол.
**02.00** Тэніс: Турнір WTA. Масква. Дзень 3.
**09.30** Футбол.
**10.30** Тэніс: Турнір WTA. Масква. Дзень 3.
**12.00** Тэніс: Турнір WTA. Масква. 1/8 фіналу.
**15.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**16.00** Футбол.
**17.00** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія. Бельгія - Шатландыя.
**17.45** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія. Румынія - Нідэрланды.
**18.30** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія. Польшча - Англія.
**19.30** Тэніс: Турнір WTA. Масква. 1/8 фіналу.
**21.30** Дартс: Фінал.
**22.45** Баявыя мастацтвы. Байцоўскі клуб.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Беларусы ў Польшчы.
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат».
**09.40** Праект «Будучыня».
**17.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**18.20** Euromaxx.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**19.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**21.40** «Дом ля поплаву», тэлесерыял.
**22.30** «Справа Фэрўэла», дак. фільм, 2009 г., Францыя: ч. 2, «Шпіён веку».
**23.25** Аб'ектыў.
**23.50** Два на два (тэледыскусія).
**00.15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 19 КАСТРЫЧНІКА, ПЯТНІЦА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 02.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія). 4-я серыя.
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.25** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**10.55** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правілаў» (Расія).
**12.15** Рэальны свет.
**13.35** Заўтра — гэта мы!
**14.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».



**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.20** Каталіцкія святыні Беларусі.
**16.45** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.30** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25, 02.00** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Тэлефільм цыклу «Лёс гігантаў».
**22.20** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правілаў». Закл. серыя.
**23.20** Драма «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**00.20** Прэм'ера. Трылер «Палі» (ЗША).
**02.40** Дзень спорту.

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Прэм'ера. «Танна і злосна».
**12.05** Тэорыя неверагоднасці.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера сезону «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.45** «Што? Дзе? Калі?» у Беларусі.
**00.05** Прэм'ера. Камедыя «Еўропа-Азія».
**01.40** «Жыццё на ўзлёце».
**02.35** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінштрына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**09.00** «Стацкі дараднік». Тэлесерыял. Заключная серыя.
**10.00** «Следакі». Серыял.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Не хлусі мне!».
**14.45** «Доктар Тырса». Серыял.
**15.35** «Гадзіна суду».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Кніжная гісторыя».
**17.20** «Мінштрына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Адкрыйце, паліцыя!». Францыя, 1984 г.



**22.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.05** «Перамажы Покерстарз».
**00.55** «Адмысловы праект».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**10.10** Час футболу.
**10.55** Страсці па культуры.
**11.40** Цела чалавека.
**12.10** «Зімародак» («Беларусьфільм»).
**13.40** Прыгодніцкі баявік «Атрад» (Расія).
**15.40** Гісторыка-біяграфічны фільм «Каханне і праўда Фёдара Цютчава» (Расія).
**17.15** Беларуская кухня.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**19.20** Арэна.
**19.50** Фактар сілы.
**20.25** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.35** Прыгодніцкі баявік «Атрад» (Расія). Заключныя серыі.

### Россия Телеканал

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Усё будзе добра!».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Уся Расія».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Лорд. Сабака-паліцыянт».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Пятая група крыві».
**22.20** Тэлесерыял «Жыццё і лёс».
**00.05** Навіны - Беларусь.
**00.15** Фільм «Карусель» (2010 г.).

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «І зноў добры дзень!».
**11.15** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** «Таямнічая Расія».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Інспектар Купер».



**21.25** Дэтэктыўны серыял «Пятніцкі. Раздзел другі».
**23.15** Серыял «Прачнемся разам?».
**00.00** «Масква - Ялта - транзіт».

### Eurosport

**00.00** Покер.
**01.00** Покер.
**02.00** Тэніс: Турнір WTA. Масква - 1/8 фіналу.
**09.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**09.45** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія. Польшча - Англія.
**10.30** Снукер: Еўрапейскі тур. Бельгія.
**12.00** Тэніс: Турнір WTA. Масква - 1/4 фіналу.
**15.45** Снукер: Еўрапейскі тур. Бельгія.
**22.00** Бокс: Цяжкая вага.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**07.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат».
**09.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**17.50** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**18.20** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.30** Невядомая Беларусь: «Пустазелле», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**21.40** «Золата дэзерціраў», маст. фільм, 1998 г., Польшча.
**23.45** Аб'ектыў.
**00.10** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**00.40** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 20 КАСТРЫЧНІКА, СУБОТА

### 1 Беларусь

**06.35** Існасць.
**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**09.55** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія). Заключная серыя.
**11.05** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**11.35** Зямельнае пытанне.
**12.15** Мультфільмы.
**12.30** Камедыя «Сем старых і адна дзяўчына» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Прыгодніцкая камедыя «Трое ў каноэ» (ЗША).
**17.25** Дакументальны серыял «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**18.25** Таямніцы следства.
**19.10** Меладрама «Шчасце маё» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Баявік «Іншыя 48 гадзін» (ЗША).
**23.35** «Кінашок» па-беларуску».
**00.05** Дзень спорту.
**00.15** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія). Заключная серыя.
**01.10** Перазагрузка.

### ОНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.30** «Здароўе».
**10.35** «Смак».
**11.20** «Разумніцы і разумнікі».
**12.05** Фільм «Да мяне, Мухтар!».
**13.40** Прэм'ера. «Фабрыка зорак». 10 гадоў пасля».
**14.40** «Абракадабра».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Вялікія гонкі».
**18.00** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**18.50** «Ды добра!».
**19.30** АНТ прадстаўляе: «Сардэчна запрашаем у Беларусь».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Голас».
**22.55** «Што? Дзе? Калі?».
**00.05** Фільм «Прадчуванне».

### СТВ

**06.10** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**07.00** «Анфас».
**07.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**07.25** «Салдаты-14». Серыял.
**09.00** «Прадстаўце сабе!».
**09.30** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчане».
**11.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**11.10** Фільм «Адкрыйце, паліцыя!». Францыя, 1984 г.
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.35** Фільм «Таямніца «Чорных драздоў». СССР, 1983 г.
**15.20** «Ваенная таямніца».
**16.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** Фільм «Мужчына для жыцця, або на шлюб не прэтэндую». Расія-Украіна, 2008 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Браты Грым». ЗША-Вялікабрытанія-Чэхія, 2005 г.
**22.25** «Антыкілер 2». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.25** Дабравест.
**07.50** «Зімародак» («Беларусьфільм»).
**09.15** Прыгодніцкі баявік «Атрад» (Расія). Заключныя серыі.
**11.10** Тэлебарометр.
**11.15** Альбарутэнія.
**11.50** Наперад у мінулае.
**12.25** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.30** Беларуская кухня.
**14.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.40** Футбол. Прэм'ер-ліга. Прамая трансляцыя.
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Прамая трансляцыя.
**19.00** Ваша лато.
**19.40** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.50** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.20** Фантастычная камедыя «Сямейка Адамс» (ЗША).
**00.10** Шоў «Суперінтуіцыя».

### Россия Телеканал

**07.00** «Юрмала-2012». Фэст гумарыстычных праграм.
**08.30** Фільм «Карусель» (2010 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Уся Расія».
**12.10** Тэлесерыял «Дом ля вялікай ракі».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**14.50** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**15.40** «Дзе золата «Чорнага прынца»?».
**16.40** «Улада факту».
**17.30** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** «Танцы з Зоркамі». Сезон-2012.
**00.00** Фільм «Алібі надзея, алібі каханне» (2012 г.).

### НТВ

**06.20** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** Галоўная дарога.
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.15** Вострасюжэтны серыял «Пагоня за ценем».
**15.05** «Жаночы погляд».
**16.00** Сёння.
**16.20** Следства вялі..
**17.10** «Вочная стаўка».
**18.05** Выратавальнікі.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.30** «Прафесія-рэпарцёр».
**20.00** «Праграма Максімум».
**21.05** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.15** «Ты не паверыш!».
**23.15** Драматычны трылер «У апошні момант».
**00.50** «Прамень Святла».

### Eurosport

**00.00** Самыя моцныя людзі планеты: Венгрыя.
**00.30** Самыя моцныя людзі планеты: Венгрыя.
**01.00** Аўта і Матаспорт.
**01.15** Снукер: Еўрапейскі тур. Бельгія.
**09.30** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Сузука - Кваліфікацыйны раўнд.
**10.15** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**10.30** Снукер: Еўрапейскі тур. Бельгія.
**12.00** Тэніс: Турнір WTA. Масква.
**16.00** Аўтагонкі: Сусветная серыя Рэно Барселона - Гонка 1.
**17.00** Снукер: Еўрапейскі тур. Бельгія.
**22.00** Баявыя мастацтвы.: Суперкомбат.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.55** Студыя «Белсат».
**08.25** Невядомая Беларусь: «Пустазелле», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат».
**09.35** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.05** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.50** Форум (ток-шоу).
**11.35** Казкі для дзетак: «Цюхця, што ты за стварэнне?!», «Гэй, слон!», «Таямніца шыфру Марабу».
**12.00** «Школа на санцапёку», серыял: 18 серыя.
**12.25** «Мой родны горад», серыял: 39 серыя.
**12.50** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 6 серыя.
**13.35** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Найвярнейшы жаўнер Гітлера».
**14.20** «Праведнікі», тэлесерыял: 5 серыя.
**15.05** «Справа Фэрўэла», дак. фільм, 2009 г., Францыя: ч. 2, «Шпіён веку».
**16.00** «Золата дэзерціраў», маст. фільм, 1998 г., Польшча.
**18.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**18.15** Еўропа сёння.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзік Фантазік».
**19.00** «Рэвалюцыя», дак. фільм, 2007 г., Францыя: 3 серыя, «Мадагаскар: сем месяцаў хаосу».
**19.55** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**20.10** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.45** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.40** Суботні сеанс: «Дні футболу», камедыя, 2003 г., Іспанія.
**23.35** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 7 серыя.
**00.20** Аб'ектыў.
**00.35** Жаўтуха (сатырычная праграма).

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 21 КАСТРЫЧНІКА, НЯДЗЕЛЯ

**БЕЛАРУСЬ 1**

**06.35** Музычная камедыя «Сем старых і адна дзяўчына» (СССР).
**08.00** Дакументальны серыял «Майстар вандравання» (ЗША).
**08.30** Медычныя таямніцы.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Тэлефільм АТН цыклу «Зямля беларуская».
**09.55** Камедыйны дэтэктыў «Участак» (Расія). 1-я серыя.
**10.55** Тэлефільм цыклу «Лёс гігантаў».
**11.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.20** Мультфільмы.
**12.35** Культурныя людзі +.
**13.15** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.35** Камедыя становішчаў «Самалётам, цягніком, машынай» (ЗША).
**17.25** Каробка перадач.
**17.55** Канцэртная праграма.
**18.55** Баявік «Школа лепшых стралкоў» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Камедыйная меладрама «Фрэнкі і Джоні» (ЗША).
**00.40** Камедыйны дэтэктыў «Участак» (Расія). 1-я серыя.

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.25** Фільм «Умовы кантракту». Заключныя серыі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. Асяроддзе пасялення.
**17.20** АНТ прадстаўляе: «Рыцарскі турнір у Мірскім замку».
**18.00** Дэтэктыў «Падазрон». Заключныя серыі.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Дыханне планеты».
**21.40** Прэм'ера. Драма «Баец».
**23.40** «Yesterday Live».
**00.40** Фільм «Сказ пра тое, як цар Пётр арапа жаніў».

**СТВ**

**06.20** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**07.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**07.25** «Салдаты-14». Серыял. Заключныя серыі.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Жыць будзеце».
**09.50** «100 адсоткаў».
**10.20** «Вялікі сняданак».
**11.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**11.10** Фільм «Браты Грым». ЗША-Вялікабрытанія-Чэхія, 2005 г.
**13.30** «Добры дзень, доктар».
**14.05** Фільм «Мужыкі!..». СССР, 1981 г.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт М.Задорнава.
**18.30** «Гарады, што спяваюць». Выніковы дзённік.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Кармэн». Іспанія-Вялікабрытанія-Італія, 2003 г.
**22.55** «Пякельная кухня».
**00.15** Фільм «Заблыталіся ў каханні». Германія, 2008 г.

**БЕЛАРУСЬ 2**

**07.00** Таямніца душы.
**07.25** Казкі.
**09.45** Телебарометр.
**09.50** Альбарутэнія.
**10.25** Вышэй за дах.
**11.00** Школа рамонту.
**12.10** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.15** Пра мастацтва.
**13.45** Рамантычны дэтэктыў «Злавіць злодзея» (ЗША).
**15.55** Баскетбол. Ліга ВТБ. Прамая трансляцыя.
**17.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**18.20** «Званы часу. Сяргей Давідовіч». Дакументальны фільм.
**18.55** Суперлато.
**19.40** Спорт-кадр.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Камедыя «На абочыне» (ЗША).
**23.30** Шоў «Суперінтуіцыя».

**РОССИЯ**

**07.00** «Уся Расія».
**07.15** Фільм «Кропля святла» (2009 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** Тэлесерыял «Дом ля вялікай ракі».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Уся Расія».
**14.30** «Край бурштынавай ліхаманкі».
**15.30** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.00** Фільм «Калі б я цябе кахаў» (2010 г.).
**17.55** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Фільм.
**23.20** 1/4 фіналу Першай лігі КВЗ.

**НТВ**

**06.20** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.45** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.55** «Дачны адказ».
**12.00** «Ежа без правілаў».
**13.00** Сёння.
**13.20** Серыял «Пагоня за ценем».
**15.05** «Вяселле ў падарунак!».
**16.00** Сёння.
**16.20** «Развод па-руску».
**17.10** «І зноў добры дзень!».
**18.10** «Бывае жа такое!».
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**20.00** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.55** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**23.15** «Венік». Ток-шоў.
**00.10** Баявік «Антыкілер ДК».

**EUROSPORT**

**01.00** Тэніс: Турнір WTA. Масква.
**02.00** Снукер: Еўрапейскі тур. Бельгія.
**07.45** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Сузука - Размінка.
**08.15** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Сузука.
**09.15** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Сузука.
**10.30** Снукер: Еўрапейскі тур. Бельгія.
**11.00** Снукер: Еўрапейскі тур. Бельгія.
**12.00** Тэніс: Турнір WTA. Масква - Фінал.
**14.00** Снукер: Еўрапейскі тур. Бельгія.
**15.45** Аўтагонкі: Сусветная серыя Рэно Барселона - Гонка №2.
**17.00** Снукер: Еўрапейскі тур. Бельгія.
**19.00** Фігурнае катанне: Гран-Пры серыі Гран-пры па фігурным катанні Skate America.
**21.00** Снукер: Еўрапейскі тур. Бельгія.

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Мядзведзік Фантазік».
**07.45** «Школа на санцапёку», серыял.
**08.10** «Мой родны горад», серыял.
**08.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**08.45** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**09.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.45** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**10.25** «Апантаныя-2», дак. цыкл.
**10.35** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**10.45** Асабісты капітал.
**11.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.30** Навігатар.
**11.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.10** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Мядзведзік Фантазік».
**12.40** «Школа на санцапёку», серыял: 19 серыя.
**13.10** «Мой родны горад», серыял: 40 серыя.
**13.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**13.45** «Глыбокая вада», серыял: 6 серыя.
**14.30** «Рэвалюцыя», дак. фільм, 2007 г., Францыя: 3 серыя, «Мадагаскар: сем месяцаў хаосу».
**15.25** Назад у будучыню.
**15.35** Невядомая Беларусь: «Пустазелле», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**16.05** «Дні футболу», камедыя, 2003 г., Іспанія.
**17.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.20** Два на два (тэледыскусія).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзік Фантазік».
**19.00** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Вырашальны ўдар».
**19.50** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**20.05** Дакументальная гадзіна: «Дзяўчаты з Аўшвіцу», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.15** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.45** Форум (ток-шоў).
**22.35** Фільматэка майстроў: «Італьянец», маст. фільм, 2005 г., Расія.
**00.15** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.30** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**00.50** «Бульбаны», мультсерыял.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. (8 029) 651 21 12.**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

# ТУМАННАЯ БУДУЧЫНЯ КАТАЛОНСКАГА ФУТБОЛУ

Алег НОВІКАЎ

**Мадрыд знайшоў слабае месца каталонскага руху за незалежнасць. У выпадку абвяшчэння незалежнасці гонару Каталоніі — футбольнаму клубу «Барселона» — пагражаюць выключэннем з іспанскай футбольнай лігі.**



Самае незвычайнае ў гэтай гісторыі тое, што славутая «Барселона» калісьці гуляла ў асобнай каталонскай футбольнай лізе і адчувала сябе пры гэтым цудоўна. Тая ліга была створаная ў 1903-м і праіснавала аж да 1940 года. Прычым чэмпіянаты Каталоніі праходзілі паралельна з гульнямі ў іспанскай лігі (1929), у якіх таксама брала ўдзел тая ж «Барса». Усяго згулялі 35 сезонаў. Каталонская ліга на той час была настолькі моцнай, што атрымаць прапіску ў ёй марыў нават мадрыдскі «Рэал».

Апошні чэмпіянат Каталоніі быў разыграны ў сезоне 1939–1940 года на фоне кананады грамадзянскай вайны. Франкісты, якія ўступілі ў Барселону ў зеніце чэмпіянату, ненавідзелі ўсе каталонскае. Каталонская футбольная ліга была хутка ліквідаваная. Увогуле, фанатам "Барселоны" яшчэ пашанцавала. У 1924 годзе дыктатар Прыма дэ Рывера ўвогуле забараніў футбольны клуб за тое, што на клубным стадыёне падчас матчаў балельшчыкі выконвалі рэспубліканскія песні.

Каталонская футбольная федэрацыя і, адпаведна, ліга адрадзіліся толькі пасля падзення дыктатуры напрыканцы 1970-х. З таго часу каталонцы зноў разыгрываюць тытул чэмпіёна краю. Аднак вядучыя мясцовыя клубы (накшталт «Барселоны» або «Эспаньёлы») у гэтых спаборніцтвах удзел не бяруць. Статус удзельнікаў цяперашняй каталонскай лігі нават ніжэйшы за турнір трэцяй лігі іспанскага чэмпіянату.

Па логіцы, у выпадку абвяшчэння незалежнасці (такая падзея, на думку вядучых каталонскіх партый, можа мець месца ўжо ў 2014 годзе), у новай дзяржаве будзе створаная свая паўнавартасная футбольная ліга, якую неабходна будзе запаўняць.

Што чакае «Барселону» ў такім выпадку, добра сведчыць прыклад мінскага «Дынама». Пасля таго, як Беларусь стала незалежнай, клуб перастаў быць неафіцыйнай футбольнай зборнай БССР. Хаця доўгі час ён дамінаваў у чэмпіянатах Беларусі, аднак пакуль бела-блакітныя застаюцца ценем таго «Дынама», што перамагло ў 1982 годзе ў чэмпіянаце СССР. Такая ж, здаецца, будучыня і ў «Барселоны» з улікам узроўню клубаў, якія могуць увайсці ў склад першага эшалону каталонскай лігі. Акрамя «Барселоны» і «Эспаньёлы» ў двух вышэйшых дывізіёнах гуляюць яшчэ тры каталонскія каманды — «Gimnastic» (Тарагона), «Girona FC» (Жырона) і «CE Sabadell» (Сабадэль). Пяці клубаў для правядзення турніру яўна мала. Давядзецца запрашаць фактычна аматарскія калектывы, якім «Барселона» будзе забіваць колькі заўгодна. Аднак наўрад ці гэты каскад галоў будзе спрыяць якасці гульні.

Прычым у каталонскім варыянце падзенне кваліфікацыі вядучага мясцовага клуба мае больш негатыўныя наступствы, чым гэта было ў нас напачатку 1990-х.

Футбольны клуб «Барселона» — гэта сапраўдная індустрыя. Бюджэт клубу на наступны год складае 426 мільёнаў еўра. Для параўнання, бюджэт Беларусі на наступны год — усяго 14 з нечым мільярдаў долараў ЗША. У агульнадзяржаўных выдатках на 2013 год прадугледжаны выдаткі на беларускую навуку — і фундаментальную, і прыкладную — усяго 176 мільёнаў долараў. Іншымі словамі, амаль у два з паловай разы менш за выдаткі аднаго футбольнага клубу.

І ўсе свае каласальныя прыбыткі «Барселона» можа лёгка страціць. Наўрад ці матчы «Барсы» і той жа «Жыроны» будуць выклікаць такі ажыятаж, як сустрэчы ў рамках іспанскай лігі. Гэта, здаецца, цудоўна разумеюць працаўнікі каталонскага сепаратызму, якія падкрэсліваюць эканамічны кошт незалежнасці. Даходзіць да таго, што некаторыя кансерватары кажуць, што ў выпадку дэкларацыі пра дзяржаўную самастойнасць каталонцаў чакае лёс албанцаў або баснійцаў.

Пры ўсёй неадэкватнасці падобных заяў, каталонскія нацыяналісты мусяць шукаць адказ на пытанне, што чакае «Барселону», каталонскі футбол і звязаную з ім камерцыйную інфраструктуру? Як правіла, яны спрабуюць трымаць аптымізм, упэўнена сцвярджаючы, што «Барселону» ніхто з іспанскай лігі выганяць не будзе. Пра гэта французскаму каналу «Canal+» на днях асабіста сказаў Хуан Лапорта, прэзідэнт дырэкцыі «Барселоны».

Доказы прыводзяцца наступныя. Па-першае ёсць прыклады, прычым па суседству. Фармальна, незалежныя дзяржавы Манака і Андора не маюць сваіх чэмпіянатаў. Мясцовыя клубы гуляюць у французскім і, адпаведна, іспанскім турнірах. У крайнім выпадку можна ўжыць уэльскую мадэль. Тут існуе свой чэмпіянат. Аднак самыя моцныя рэгіянальныя клубы гуляюць у спаборніцтвах англійскай лігі.

Каталонская прэса супакойвае заўзятараў тым, што іспанскія ўлады не зацікаўленыя ў выключэнні каталонцаў са складу іспанскіх турніраў. У краіне, дзе беспрацоўе дасягае часам 20 працэнтаў, футбол — важны сродак калектыўнай псіхалагічнай кампенсацыі. Таму паніжаць статус іспанскага чэмпіянату Мадрыду сабе даражэй.

Нарэшце, ёсць адзін незвычайны тэзіс, паводле якога каталонскі сепаратызм будзе на руку іспанскім футбольным чыноўнікам. Справа ў тым, што ў іх асяроддзі папулярна ідэя стварэння нейкай суперлігі, якая б уключала толькі багатыя, моцныя і ўкамплектаваныя кадрамі клубы. Такая мадэль гарантуе больш прыбыткаў. Відавочна, што цяжка знайсці рэкламу на матч «Рэала» з нейкім клубам з перыферыі, вынік якога вядомы загадзя. Затое сустрэча «Рэала» з «Барселонай» стоадсоткава прыцягне інтарэс публікі і рэкламадаўцаў.

Для пачатку сур'ёзных дэбатаў пра новую ступень камерцыялізацыі футбола папросту не было падстаў. Аддзяленне Каталоніі магло б стаць стымулам для стварэння такой суперлігі, куды б набіралі па фінансаваму крытэрыю. Больш за тое, некаторыя кажуць, што такога кшталту пірэнейская суперліга магла б закласці падмурак стварэнню агульнаеўрапейскай футбольнай лігі. Заклікі да таго, каб адмовіцца ад нацыянальных чэмпіянатаў на карысць еўралігі, гучаць даўно, аднак для рэформы павінны быць падставы, і цяпер яны бысцам ствараюцца.

Доказы салідныя. Аднак ёсць і контраргументы. Можна згадаць прэцэдэнт з шатландскім клубам «Rangers», які быў створаны пры пратэстанцкай камуне Глазга. Паколькі большасць шатландцаў — каталікі, ім не вельмі ўтульна, і яны неаднаразова прасілі УЕФА дазволіць ім гуляць у англійскай лізе, аднак заўсёды атрымлівалі адмову. Іншымі словамі, аўтаматычнага ўключэння «Барселоны» ў склад іспанскай лігі, магчыма, не будзе. Тым больш, калі прысутнічае палітыка. Вядома, што каралеўская іспанская футбольная федэрацыя даўно і паслядоўна з-за палітычных матываў блакіруе прыём у сябры УЕФА футбольнай федэрацыі Гібралтару — брытанскай калоніі на Пірэнеях, якую Мадрыд лічыць акупаванай тэрыторыяй.

Таму будучыня каталонскага футболу, у выпадку абвяшчэння незалежнасці, застаецца вельмі туманнай. З іншага боку, апошнія поспехі барысаўскага «БАТЭ», які стаў грандам беларускага футбол, дзякуючы ў тым ліку такому фактару, як развал СССР, сведчыць, што нічога жудаснага ў стварэнні сваёй нацыянальнай футбольнай лігі няма.

У любым выпадку, футбол — перш за ўсё спартовая гульня, а толькі пасля — камерцыйнае шоу.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Літва ніяк не можа падабраць ключ да дзвярэй рэжыму Аляксандра Лукашэнкі — з ім спрабавалі размаўляць па-рознаму, але гэты моцны арэшак не паддаецца. Але пакуль палітыкі Літвы і ЕС шукаюць, беларусы знаходзяць у Літве тое, што ім трэба: буйныя гандлёвыя цэнтры часам ледзь месяцць гасцей з Беларусі, якія прыехалі на выходныя за пакупкамі. А найбліжэйшае асяроддзе Лукашэнкі і буйныя алігархі, можна сказаць, жывуць у Вільнюсе. Яны купляюць кватэры і дамы, маюць зносіны з палітыкамі і мясцовымі прадпрымальнікамі. Старшыня камітэта нацыянальнай бяспекі і абароны Арвідас Анушаўскас сцвярджае, што, купляючы нерухомасць у Літве, асяроддзе Лукашэнкі, магчыма, рыхтуе плацдарм для ўцёкаў.

**«Delfi» (Літва)**

Што ж датычыцца інтэграцыі, то Лукашэнка, нягледзячы на паразу Саакашвілі, яшчэ вельмі нават можа прапісаць калі не ўсю Грузію, то асобна ўзятага адстаўнога грузіна, калі не ў СНД, то ў асобна ўзятай Беларусі. Іншая справа, ці захоча Саакашвілі здабыць спакой там, дзе знайшоў яго экс-прэзідэнт Кіргізіі Бакіеў?

**«Голос России» (Расія)**

У прыватызацыйным спісе знаходзіцца каля 250 прадпрыемстваў, але інвестары не спяшаюцца ўкладваць у беларускую эканоміку з-за недастатковай празрыстасці ў краіне. Больш таго, эксперты лічаць, што ўступленне Расіі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю прынясе сур'ёзную шкоду беларускай прамысловасці: зараз беларускаму экспарту ў Расію давядзецца канкураваць з сусветнай прадукцыяй… Тэндэнцыі апошняга часу выглядаюць зусім не весела — за першае паўгоддзе бягучага года краіна страціла 600 мільёнаў долараў, якія магла атрымаць у якасці прамых інвестыцый, а кіраўніцтва краіны, як паказала гісторыя з купляй «Газпрамам» «Белтрансгаза», не жадае допускаць росту ўплыву інвестараў, дарэчы, пераважна расійскіх.

**«Handelsblatt» (Германія)**

Большасць беларусаў не лічаць міліцыянераў сваімі абаронцамі. Па меркаванні экспертаў, у Беларусі органы ўнутраных спраў ператварыліся ў рэпрэсійную машыну, прычым не толькі ў дачыненні да апазіцыі. Усе больш беларускіх грамадзян за апошнія гады адчулі на сабе нематываваную агрэсію з боку супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Звычайнай практыкай сталі фальсіфікацыі адміністрацыйных спраў і лжэсведчанні міліцыянераў у судах.

**«Deutche Welle» (Германія)**

Уменне ўладаў Беларусі адмаўляць відавочнае і не прызнаваць папрокі сусветнай грамадскасці ў незахаванні правоў чалавека стала ўжо нормай і нікога не дзівіць. Беларуская ўлады даўно абралі шлях «законнага беззаконня». Красамоўны прыклад такога развіцця падзей — нядаўняя заява кіраўніка ЦВК Лідзіі Ярмошынай пра тое, што ў бліжэйшай будучыні заклікі да байкоту выбараў будуць разглядацца як грамадска-масавыя мерапрыемствы, якія ў Беларусі ўжо дэ-факта забароненыя.

**«Независимая Газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. ВУЛІЦА Ў ГОНАР МУЗЫКАНТА

Гарадскі савет горада Масціцк, што на Львоўшчыне, прыняў незвычайнае рашэнне: у 50-ю гадавіну нараджэння Сяргея Кузьмінскага — памерлага лідара, напэўна, самага вядомага ўкраінскага рок-гурта «Браты Гадзюкіны» — назваць у яго гонар адну з запраектаваных вуліц. Такую ўзнагароду музыкант заслужыў за тое, што неяк напісаў песню «Приїдь до мене у Мостиська», якая стала неафіцыйным гімнам гораду. З гэтай нагоды 5 кастрычніка ў горадзе адбыўся святочны канцэрт і мітынг з удзелам прадстаўнікоў мэрыі. Рашэнне кіраўніка Масціцка, безумоўна, добрае, аднак нельга не згадаць, што, калі два гады таму Кузьмінскі памёр, пра яго нават не згадалі. На пахаванне самага вядомага рокера Украіны ў Львове прыйшло толькі некалькі дзясяткаў яго знаёмых. Гэта было часткова звязана з тым, што сам Кузьмінскі доўгі час быў наркаманам, а тэксты песняў утрымлівалі тэму наркотыкаў. Застаецца дадаць, што Кузьмінскі напісаў яшчэ і неафіцыйны гімн абласнога цэнтру Цярнопаль. Гаворка пра песню «Файне місто Тернопиль». Магчыма, маштаб прысутнасці імя Кузьмінскага ў тапаграфічных назвах Украіны хутка павялічыцца.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. ЦАРКВА СУПРАЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Камісія біскупаў Іспаніі на сваім пасяджэнні 4 кастрычніка асудзіла планы каталонцаў абвясціць незалежную дзяржаву. «Палітычныя праекты, якія накіраваныя на дэзінтэграцыю, падрываюць культурнае і духоўнае адзінства старажытнай краіны Іспаніі», — гаворыцца ў тэксце заявы святароў. На думку біскупаў, размовы пра тое, хто больш з народаў, якія ўваходзяць у склад Іспаніі, плаціць падаткаў, супярэчаць сацыяльнай дактрыне каталіцкай царквы, якая была прынятая ў 2006 годзе. За праект такой рэзалюцыі прагаласавала 17 з прысутных біскупаў, 4 устрымаліся. Асобна ў заяве падкрэсліваецца, што яна не мае палітычнага падтэксту. Цяпер застаецца чакаць, як каталонскае грамадства адрэагуе на заклік Касцёлу. Тут варта ўзгадаць, што гэта рэзалюцыя была прынятая італьянскімі біскупамі ў 1994 годзе як рэакцыя на заклікі партыі «Ліга Поўначы» да стварэння асобнай дзяржавы Падання на поўначы краіны. Калі меркаваць па выніках тагачасных выбараў, заклікі амаль не паўплывалі на электаральныя настроі.

**Паводле іспанскай прэсы**

### АЗЕРБАЙДЖАН. ДАЧКА ПРЭЗІДЭНТА СТАЛА ЛІТАРАТУРНЫМ КЛАСІКАМ



У Азербайджане ў падручнікі для пятага класа ўключылі вершы Лейлы Аліевай, дачкі прэзідэнта Азербайджана. Верш «Элегія» прысвечаны дзеду Лейлы — Гейдару Аліеву. Уключэнне вершаў Лейлы Аліевай у школьны падручнік выклікала неадназначную рэакцыю. Дырэктар дэпартамента па школьных падручніках міністэрства адукацыі Азербайджана мяркуе, што ўвядзенне твора ў падручнікі з'яўляецца «звычайнай справай». А вось апазіцыя так не лічыць. Актывіст апазіцыі Заур Курбанлы нават заклікаў у сваім блогу народ пратэставаць супраць «Элегіі» і яе аўтаркі. Праўда, сам Курбанлы ўдзельнічаць у пратэстах дакладна не будзе. 29 верасня ён быў арыштаваны па падазрэнні ў продажы наркотыкаў, у яго офісе былі выяўлены «незаконныя дакументы і прадметы». Такія абвінавачванні — звычайная справа для азербайджанскіх апазіцыянераў і незалежных журналістаў. Што да простых людзей, то яны пішуць на формах, што цяпер Лейла яўна захоча быць спявачкай.

**Паводле азербайджанскай прэсы**

### ЛІТВА. ДЭПУТАТЫ ЗАКЛІКАЛІ БАЙКАТАВАЦЬ П'ЕСУ

35 літоўскіх парламентарыяў заклікалі да байкоту п'есы «Пра канцэпцыю асобы сына Божага» (рэжысёр — італьянец Рамэа Кастэлучы), якая была прадстаўленая ў Вільнюсе ў рамках міжнароднага тэатральнага фестывалю «Sirenos». На думку дэпутатаў, п'еса абражае хрысціянскіх вернікаў, паколькі няправільна паказвае Ісуса Хрыста. У спектаклі Кастэлучы выкарыстоўваецца фрагмент карціны італьянскага мастака перыяду Адраджэння Антанэла дзі Месіны «Выратавальнік свету», на якім намалявана аблічча Хрыста. Хрыстос нібы назірае за адносінамі хворага бацькі і сына. Стары нямоглы бацька з-за дыярэі пэцкае экскрэментамі ўвесь інтэр'ер. Тэма тэатру настолькі захапіла дэпутатаў, што яны дыскутавалі наконт твору Кастэлучы цэлых два дні. Самае цікавае, што калі 4 кастрычніка адбылася скандальная пастаноўка, у пікеце каля будынку тэатру не было ніводнага заканадаўца. Усе пікетчыкі былі сябрамі маладых кансерватыўных груповак.

**Паводле літоўскай прэсы**

РАЗВАЖАННІ

# ПРЫВІТАННЕ, МІШО!

**Алег НОВІКАЎ**

**Развязка грузінскіх выбараў — дзеючая ўлада прызнае сваю паразу на выбарах і мірна перадае паўнамоцтвы апазіцыі — настолькі незвычайная па мерках СНД, што спарадзіла мноства версій наконт сапраўдных матываў учынкаў Міхаіла Саакшвілі.**

## Версія 1: Саакашвілі сышоў, паколькі спалохаўся народных пратэстаў

Такая версія папулярная ў асяроддзі грузінскай апазіцыі. Паводле гэтай тэорыі, Міхаіл Саакашвілі адмовіўся ад фальсіфікацый пасля таго, як пабачыў маштаб вераснёўскіх вулічных пратэстаў. Людзей вывелі на вуліцы кадры з Глданскай турмы №8, дзе катуюць вязняў. «Тое, што мы ўбачылі па тэлевізары ў рэпартажах, — гэта жах, пра які мы і так ведалі. Інфармацыя паступала, але мы не маглі ўявіць, што такое можа адбыцца ў Грузіі. Як кажуць, лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць. Адбылося менавіта так. У свядомасці народа здарыўся велізарны стрэс, гэта не рабілі нават фашысты і камуністы», — перадае свае эмоцыі ад пабачанага былы савецкі дысідэнт Автандзіл Імнадзэ.

У выніку пачаліся масавыя маніфестацыі, вынікам якіх, па словах актывіста руху «Грузінская мара» Георгія Парэшвілі, «стала канстатацыя факту, што ўладу ўжо не ўтрымаць». У каментарах для НЧ ён сказаў: «У Саакашвілі не заставалася іншых варыянтаў: або прызнаць выбары, або пайсці па паўтарэнне падзей 9 красавіка (у гэты дзень у 1989 годзе ў цэнтры Тбілісі сапёрнымі рыдлёўкамі было забіта каля 15 маніфестантаў, якія пратэставалі супраць падпісання Грузіяй новай саюзнай дамовы).

## Версія 2. Саакашвілі — ахвяра ціску Захаду

Гэта тэорыя папулярная ў атачэнні маскоўскіх палітолагаў, частка якіх паўсюль бачыць руку Вашынгтону. Як вядома, Тбілісі моцна залежыць ад фінансавай падтрымкі Захаду, што рабіла яму праамерыканскі імідж. Аўтарытарныя тэндэнцыі ўнутры апарата Саакашвілі і яго знешнепалітычны авантурызм пачалі кампраметаваць Захад на Каўказе. У выніку Міхаілу даслалі «чорную метку». На карысць гэтай версіі працуе і першая заява Іванішвілі. Ён адзначыў, што прыярытэтам для новага ўраду будзе інтэграцыя ў заходнія структуры.

«Аказваецца, формула «ён сукін сын, аднак наш сукін сын» у заходнім разуменні мае межы», — адзначае піцерскае выданне «Час».

## Версія 3. Саакашвілі — сапраўдны дэмакрат

Адэпты гэтай тэорыі вераць, што, кажучы словамі аднаго блогера, «Саакашвілі — сапраўдны мужык і дэмакрат, паколькі прызнаў паразу на выбарах і павіншаваў «Грузінскую мару».

На старонках сайтаў праўладнай партыі Саакашвілі сапраўды выглядае як светач дэмакратыі. «Выбары адбыліся. Так ці інакш, але ўчорашняя апазіцыя выйграла. Яна атрымала большасць у парламенце краіны і можа фармаваць свой урад. «Адзіны нацыянальны рух Грузі» адразу прызнаў пройгрыш, павіншаваў апанентаў з перамогай і заявіў пра гатоўнасць супрацоўнічаць па ўсіх пытаннях дзеля будучыні дзяржавы. Гэта значыць, Грузія даказала ўсяму свету, што сапраўды з'яўляецца не фасаднай, а сапраўднай дэмакратыяй. Урадаўцы — у першую чаргу прэзідэнт Саакашвілі — пацвердзілі, што з'яўляюцца сапраўднымі дэмакратамі», — піша сайт «Грузія анлайн».

Там жа адзначаецца: «Больш таго — Міхаіл Саакашвілі выявіў добрую волю і сам выказаў гатоўнасць саступіць канстытуцыйныя паўнамоцтвы. У прыватнасці, ён мае прэрагатыву прызначаць міністраў сілавога блока. Але адмовіўся ад гэтага права і гатовы даць людзям па выбары апанентаў».

## Версія 3. Саакашвілі прызнаў выбары, каб рэабілітавацца

Парадаксальна, але факт. Як толькі Саакашвілі прызнаў выбары, усе наезды на яго за быццам створаны ім рэпрэсіўны рэжым, прайграную вайну з Расіяй і нават катаванні ў турмах зніклі. Саакашвілі зноў стаў белым і пухнатым, і больш таго — атрымаў маштаб гістарычнай фігуры.

Вось якую ацэнку дае Саакашвілі былы яго паплечнік экс-міністр эканомікі Каха Бендукідзэ: «У Евангеллі ад Матфея сказана, што па пладах пазнаеце іх, і не можа дрэва добрае даць плод кепскі. Ёсць пэўныя вынікі. Па-першае, нягледзячы на праблемы з газам і электрычнасцю, з вайной і фінансавым крызісам пасля вайны, грузінская эканоміка вырасла за гэтыя гады ў паўтара разы. З улікам акалічнасцяў — гэта бліскучы вынік. І па-другое, на восьмым годзе кіравання Саакашвілі ў парламенце перамагла апазіцыя».

У тым жа інтэрв'ю Бенукідзэ параўнаў Саакашвілі з Франклінам Рузвельтам.

## Версія 4. Саакашвілі і Іванішвілі — саюзнікі

Іванішвілі, як вядома, доўгі час фінансаваў рэжым Саакашвілі, прычым у вельмі істотных маштабах. Так, ён даў грошы на стварэнне той самай новай паліцыі. Да цяперашняга дня не зразумелыя канчаткова матывы, якія прымусілі алігарха ўвесну мінулага года пачаць фронду супраць былога сябра. Сам Іванішвілі тлумачыць гэта шокам, які ён перажыў пасля майскіх падзей 2011-га. Так ці інакш, яго выхад на палітычную авансцэну цалкам перакроіў грузінскі апазіцыйны пейзаж. Бурджанадзэ і іншыя вядомыя апазіцыянеры адышлі ў цень. Іх месца заняў вельмі супярэчлівы праект. Вось як Іванішвілі сам нядаўна аналізаваў некаторыя дзяржаўныя законапраекты: «Нешта ў гэтай праграме бюджэт не зразумелы, можа, яна даражэй абыдзецца, але гэта не страшна, я са сваіх дакладу».

## Версія 5. Саакашвілі прызнаў выбары, каб вярнуцца ва ўладу

Дзякуючы Іванішвілі лёгка вырашаецца праблема захавання ўлады. Зараз Саакашвілі — «кульгавая качка»: у наступным годзе яго паўнамоцтвы прэзідэнта заканчваюцца, а абірацца тры разы запар канстытуцыя забараняе. Хадзілі чуткі, што Саакашвілі хоча паставіць яго, як Пуцін, «часова выконваючым абавязкі», каб пасля зноў абрацца гарантам. Ролю Мядзведзева можа несвядома выканаць Іванішвілі, які сваёй палітыкай можа забяспечыць Саакашвілі трыумфальнае вяртанне ва ўладу праз 5 гадоў.

Прэса, блізкая да Саакашвілі, ужо пачала ставіць знак роўнасці паміж сыходам Саакашвілі і пачаткам бандыцкага бязмежжа. «У турмах зафіксаваны сутычкі паміж вязнямі. Загучалі блатныя песні. Некаторыя з тых, якія марыць жыць «па панящціх», паспешліва сталі ўвасабляць мару ў жыццё. Ужо абрабавана некалькі банкаўскіх філіялаў, офіс кампаніі, некалькі крам, з'явіліся кішэнныя злодзеі, рэзка ўзнялася дробная вулічная злачыннасць, былі выпадкі групавой расправы над прыхільнікамі «Адзінага нацыянальнага руха Грузі», напады на журналістаў, а некаторыя лідары адкрытым тэкстам пагражаюць тэлекампаніям «Руставі–2» і «Імедзі»... З пагрозамі расправы сутыкнуліся і суддзі», — вось так апісвае новую грузінскую рэальнасць сайт «Грузія анлайн».

Калі нейкі хаос сапраўды пачнецца, абывацель адразу пачне сумаваць па моцнай руцэ Саакашвілі. Тым больш, што ён цяпер чысты перад дэмакратыяй, паколькі прызнаў вынікі кастрычніцкіх выбараў.

Адным словам, замест таго, каб развітацца з Міхаілам Саакашвілі, рыхтуйцеся сказаць яму: «Прывітанне!»

ВЫБАРЫ

# ЯК ПЕРАМАГЧЫ ЧАВЕСА?

Алег НОВІКАЎ

**Венесуэльская апазіцыя прайграла выбары, аднак аптымістычна глядзіць у будучыню.**

Тое, што Энрыке Капрылес — адзіны кандыдат венесуэльскай апазіцыі, прайграе Уга Чавесу, было відавочна яшчэ ўлетку, калі разрыў рэйтынгаў кандыдатаў склаў амаль 20–25 працэнтаў. Лагер улады, як і раней, мае шырокую сацыяльную падтрымку, і яго лёгка мабілізаваць страшылкамі пра вяртанне дачавесаўскіх часоў, калі 60 працэнтаў насельніцтва не атрымлівала ані грошыку з экспарту нафты — галоўнай крыніцы бюджэтных паступленняў. У краіне не было бясплатнай медыцыны, стыпендый для студэнтаў і г.д.

Аднак Капрылес змагаўся да апошняга і, як сведчыць электаральная арыфметыка, сапраўды чагосьці дабіўся. Чавес па выніках выбараў 7 кастрычніка абышоў яго толькі на 10 працэнтаў, набраўшы 55% галасоў супраць 45% у Капрылеса. Акрамя таго, за лідара апазіцыі прагаласавала рэкордная колькасць выбаршчыкаў — 6,5 мільёна чалавек, што на 2,5 мільёна больш, чым галасавала за апазіцыю на выбарах 2006-га. Пры гэтым Чавес за той жа час страціў паўтара мільёна выбаршчыкаў. Іншая цікавая лічба: з часу правядзення рэферэндуму аб змене канстытуцыі ў 2009 годзе Чавес страціў 800 тысяч галасоў. Нарэшце, існуюць рэгіёны, дзе Чавес пацярпеў паразу. Напрыклад, у індустрыяльным штаце Карабоба, дзе Капрылес абставіў лідара баліварскай рэвалюцыі аж на сем пунктаў.

Нават эксперты прызнаюць, што часы, калі Уга карыстаўся падтрымкай двух трацін венесуэльцаў, канчаткова мінулі. Такая тэндэнцыя, праўда, сведчыць пра імклівую палярызацыю венесуэльцаў, што, з улікам бескампраміснай палітыкі Чавеса, вельмі небяспечна і пагражае маштабнай канфрантацыяй.

У любым выпадку, нельга не пагадзіцца з тэзісам, які агучыў Капрылес падчас паслявыбарчай прэс-канферэнцыі: «Як засведчылі выбары, Чавеса можна перамагчы». Ён таксама параўнаў вынік выбараў 7 кастрычніка з гульнёй «Vino Tinto» (так называюць у Венесуэле нацыянальную зборную па футболу), якая гуляе няроўна.

Відавочны поспех Капрылеса звязваюць са шматлікімі фактарамі. Найбольш спрэчак выклікае пытанне, наколькі дапамог Энрыке імідж левага палітыка. Упершыню за ўсю гісторыі апазіцыя атакавала Чавеса сацыяльнымі лозунгамі. Фішкай праграмы «адзінага» было патрабаванне паляпшэння эфектыўнасці створанай Чавесам сістэмы сацыяльнай абароны. У якасці альтэрнатыўнай сацыяльнай мадэлі Капрылес спасылаўся на мадэль, якую пабудаваў сацыяліст Лула ў Бразіліі. Адзін з венесуэльскіх палітолагаў нават напісаў, што Капрылес спрабуе здабыць сабе вобраз Чавес-light.

Такое рэнамеапазіцыянера яўна паставіла ў тупік піяршчыкаў Чавеса. Спачатку ў афіцыйных СМІ намагаліся маляваць Капрылеса як банальнага буржуя (нагадаем, што кандыдат апазіцыі паходзіць з багатай сям'і, якая мае прыбыткі з кінематаграфіі і будаўніцтва), і нават фашыста. Апошняе выглядала больш смешна, паколькі кандыдат апазіцыі мае яўрэйскія карані. Яго продкі па бацькоўскай лініі сядзелі ў варшаўскім гета і нават змагаліся з нацыстамі ў рамках камуністычнага падполля.

Левы паварот апазіцыі значыў таксама прынясце новага этычнага кодэкса. У адрозненні ад папярэдніх часоў, калі апазіцыя падробляла дадзеныя экзіт-полаў, на гэты раз усё было сумленна. Гэта было важнай інфармацыйнай перамогай антычавесістаў. Падчас выбарчай кампаніі афіцыёз і Чавес асабіста сцвярджалі, што ў яго апанентаў ёсць так званы «План В». План быў нібы распрацаваны ў Вашынгтоне на выпадак паразы Капрылеса і прадугледжваў правядзенне тэрарыстычных акцый з мэтай палітычнай дэстабілізацыі. На самай справе, нічога падобнага не адбылося. Больш таго, Капрылес патэлефанаваў Чавесу і павіншаваў яго з перамогай.

Магчыма, нейкія пункты прынесла Капрылесу яго асабістая мужнасць. Энрыке праводзіў выбарчыя акцыі ў самых бедных і, адпаведна, крымінагенных раёнах, дзе традыцыйна галасуюць за Уга Чавеса. 29 верасня падчас аднаго з такіх мітынгаў тры сябры партыі «Primero Justica», якая падтрымлівае апазіцыю, былі забітыя. Усім спадабаўся малады задор Энрыке (Капрылес нарадзіўся ў 1972 годзе). На фоне старога і хворага Чавеса ён сімвалізаваў будучыню краіны.

Пры ўсім пазітыве, адзначым, канчатковы вынік застаецца адмоўным. Апазіцыя прайграла, і цяпер павінна вызначыцца, як далей будзе змагацца з Чавесам. Нагадаем, што венесуэльская апазіцыя аб'яднаная на базе кааліцыі «Аб'яднаны круглы стол апазіцыі» (MUD), што ўсе проста называюць Mesa. У склад Mesa ўваходзіць 12 суб'ектаў, з якіх толькі дзве партыі — «Nuevo Tiempo» і «Primero Justica» — стоадсоткава падтрымліваюць праграму Капрылеса.

Прыхільнікі Капрылеса маюць намер і далей праводзіць курс на «сацыял-дэмакратызацыю» апазіцыі. Ужо падчас першай прамовы пасля выбараў Капрылес выступіў супраць вяртання да ліберальных канцэптуў традыцыйнага антычавесізму. На яго думку, гэта нагадвае настальгію, якая больш характэрная для Чавеса. Новая генерацыя лідараў, па яго словах, павінны шукаць новыя ідэі.

Аднак не ўсе падтрымліваюць інавацыі Капрылеса. Нямецкая газета «TAZ» цытуе венесуэльскага журналіста Оскара Торэса. Ён кажа, што ў апазіцыйным асяроддзі ў Капрылеса шмат крытыкаў, асабліва з боку старой ліберальнай гвардыі. Між тым, ужо 16 снежня ў некаторых штатах пройдуць выбары губернатара, і апазіцыя павінна прапанаваць нейкую кансалідавальную праграму.

Што да ўлады, то ёй апазіцыйныя дэбаты, здаецца, абсалютна не цікавыя. На цяперашні момант у палацы Мірафлорэс (рэзідэнцыя прэзідэнта) працягваюць святкаваць перамогу. «Там, здаецца, забылі, што існуюць шэсць мільёнаў венесуэльцаў, якія трымаюцца іншых поглядаў на будучыню краіны», — піша выданне «El Pais». Сам Уга Чавес, дарэчы, высока ацаніў жэст Капрылеса, які павіншаваў яго з перамогай. Аднак прапанову Капрылеса разам сфармаваць новы ўрад яўна прапусціў між вушэй. Як жартуе «El Pais», краіна ўступае з эпоху, калі «галоўным ворагам Чавеса будзе яго хвароба на рак».



## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ЯЎГЕН ЦАРКОЎ



Дэпутат-камуніст Вярхоўнай Рады Украіны з'яўляецца аўтарам закона аб прапагандзе гомасэксуалізму, які быў на днях прыняты на ўра. Закон выклікаў палітычную буру, паколькі дае падставы казаць, што дзейнасць парламента мае выключна папулісцкі характар. Як высветлілася пасля галасавання, у тэксце закону няма ні слова пра інфармацыйную абарону дзяцей (дзеля якіх закон, быццам, і прымаўся), як няма і абавязковых дэфініцый такіх паняццяў, як «гомасэксуалізм» і «прапаганда гомасэксуалізму». Затое выразна і цвёрда вызначаны меры пакарання — ад шматтысячных штрафаў да пяцігадовага турэмнага зняволення, пад якія, па словах праваабаронцаў, можна падвесці нават тых, хто прадае дыскі з запісамі Элтана Джона або Фрэдзі Меркуры. Нарэшце, закон настолькі сапсаваў імідж Украіны, што яго раскрытыкаваў нават МЗС, які, быццам, прадстаўляе інтарэсы дэпутацкай большасці. «Нашы народныя выбраннікі, гуляючы з пэўнымі настроямі часткі грамадства, павінны разумець, што яны тым самым гэта грамадства проста падстаўляюць. Падабаецца нам гэта ці не, але гамафобія і еўраінтэграцыя несумяшчальныя», — адзначыў дырэктар дэпартамента інфармацыйнай палітыкі МЗС Украіны Алег Валошын. Эксперты ў Кіеве не выключаюць, што дэпутатам давядзецца прагаласаваць за адмену свайго ж рашэння, як гэта было з нядаўнім законам пра паклёпы. Між тым, Царкоў ужо пераключыўся на барацьбу за аднаўленне ў цэнтры Адэсы дэмантаванага ў 1990-я гады помніка Леніну.

### МІТ РОМНІ



На цяперашнім этапе кампаніі галоўным ворагам кандыдата ў прэзідэнты ЗША ад рэспубліканскай партыі Ромні стала цацка Big Bird (Вялікая птушка). Big Bird — папулярны персанаж дзіцячай праграмы «Sesame Street» («Вуліца Сезам»). Праграма ідзе ўжо 50 гадоў, і там з'яўляецца той самы персанаж — Вялікая птушка. Аднак цяпер з-за Ромні над Big Bird паўстала пагроза. Рэспубліканец хоча закончыць фінансаванне публічнага каналу PBS, на якім паказваюць выпускі «Sesame Street». Нядзіўна, што дэмакраты адразу пачалі апеляваць да 80-мільённай тэлевізійнай аўдыторыі «Sesame Street», намякаючы на хуткую смерць усімі любімага Big Bird. З улікам папулярнасці персанажа, штабу Міта Ромні давялося неяк апраўдвацца. Ужо заяўлена, што скарачэння на дзяржаўным тэлебачанні будзе. Будзе, быццам, зачынена іншая федэральная тэлевізійная служба — CPB. Аднак паколькі «Sesame Street» на 93 працэнты фінансуецца з бюджэту, шмат хто (асабліва бацькі, чые дзеці глядзяць прыгоды культавай Вялікай птушкі) сапраўды гатовыя галасаваць за Абаму, каб выратаваць любімага персанажа.

### ЯРАСЛАЎ КАЧЫНЬСКІ



Лідар польскай апазіцыі, старшыня партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) мае някепскія шансы вярнуцца ва ўладу (нагадаем, што яго партыя кіравала краінай да 2007 года, калі прайграла выбары «Грамадзянскай платформе»). Калі верыць апытанням саліднага агенцтва TNS Polska, на цяперашні момант PiS апераджае па папулярнасці «Грамадзянскую платформу» (PO) на 6 працэнтаў. У выпадку, калі галасаванне адбылося б заўтра, партыя Качыньскага магла б набраць 39 працэнтаў галасоў выбаршчыкаў, а «Грамадзянская платформа» — 33. На думку спецыялістаў, такі расклад тлумачыцца тым, што PiS прапанавала ў якасці кандыдатуры на пасаду прэм'ера эканаміста Пятра Глінскага, які падабаецца не толькі кансерватарам, аднак і часткі электарату лібералаў. Сам Качыньскі ўжо заявіў, што цяперашняя Трэцяя польская рэспубліка перажывае агонію. Як вядома, Качыньскі марыць пра прыняцце новай канстытуцыі Чацвёртай Рэчы Паспалітай. З іншага боку, выбары ў польскі парламент адбудуцца толькі праз тры гады, і не факт, што статус-кво захаваецца. Акрамя таго, нават 39 працэнтаў папулярнасці не гарантуюць прыходу PiS да ўлады, паколькі для фармавання ўраду патрэбна большасць у парламенце. Між тым, паводле тых жа апытанняў, у парламент могуць акрамя PO і PiS трапіць выключна былыя камуністы з партыі «Саюз левых дэмакратаў» (SLD). Цяжка ўявіць, што кансерватары могуць стварыць з імі кааліцыю.

ЦІКАВА

# Андрэй Мельнікаў: ПАРТРЭТ НА ТЛЕ ЭПОХІ

Юрка КОПЦІК




**Прысутнасць Мельнікава на архіпелагу беларускай аўтарскай песні нельга не заўважыць: першы ягоны цыкл песень «Камяні майго вогнішча» быў запісаны яшчэ ў 1987 годзе (перавыдадзены на CD у 1994-м). Апошні па часе і 21-ы па ліку «Зубы на далоні» — у 2012-м. Паміж імі — цэлая эпоха. Эпоха, пражытая і краінай, і кожным з нас.**

Мельнікаў — прадстаўнік першай генерацыі беларускіх бардаў, ніколі не быў апалітычным, адхіленым ад рэалій жыцця краіны і яе людзей певуном прыгожага слова і абстрактнай пекнай прыгажосці. Хаця ніколі не цураўся і лірычных тэмаў: дастаткова прыгадаць вядомую песню «Каханая мая». Дзіўна ўдалым сімбіёзам патрыятычнага і лірычнага пачаткаў сталася тады бадай першая ягоная шырокавядомая, насычаная барочнымі інтанацыямі «Песня з мінуўшчыны»:

*По расцерзанай айчыне*
*чужаземны войскі рышчуць,*
*Крумкачы спраўляюць трызну,*
*але знікнуць папяліішчы.*
*Незалежнасці паходні ў нас*
*і гонар, і сумленне,*
*Пад харугвамі з Пагоняй,*
*пад сцягамі Адраджэння.*
*Прыйдзем мы, ясна панна,*
*Прыйдзем, мая кахана,*
*З нашым войскам незалежным*
*Да сваёй зямлі адзінай,*
*Вернем лясы і паркі,*
*Вернем свае фальваркі,*
*І калісьці непазбежна*
*Адрадзім усю краіну —*
*Нашыя маёнткі ў пушчах,*
*Нашы вёскі, нашы вежы,*
*Нашы замкі старажытныя.*
*Ад Балтыку і да Крыму,*
*Да мясцін, дзе нас падтрымліваць*
*Будуць сябры-аднадумцы*
*З усёй Рэчы Паспалітае.*

Ні даць, ні ўзяць — праграма адраджэння краіны. Як паказала жыццё, занадта рамантычная ды ідылічная.

Але тады гэтак яшчэ не здавалася. Мітынговая хваля накрыла край, пытанне дня — адпор спробам рэваншу камуністычнай наменклатуры за сваю прыкрую разгубленасць у жніўні 1991-га. Андрэй Мельнікаў быў на версе гэтай хвалі, спаўна сплаціўшы даніну мітынговаму папулізму нашых палітыкаў; мала не на кожным мітынгу БНФ ён спяваў. Можа, і дарма, як ён цяпер разумее. Гэты час наўпрост адбіўся ў цыкле песень на вершы былога ўдзельніка антыбальшавіцкага супраціву Алеся Змагара «Да апошняга камісара», дзе ў тытульнай песні аўтар зусім не па-хрысціянску заклікае хлопцаў рэзаць бальшавікоў «да апошняга камісара».

Наогул, дамінуючай тэмай тагачасных цыклаў песень Андрэя стала тэма патрыятызму, вяртання страчанага намі — гістарычнай памяці, адчування сябе народам:

*Не дадзім жа ворагу свой народ ганьбіць!*
*Як мы жылі вольныя, так і будзем жыць!*
*Дык уперад воі, хай ракою кроў!*
*За сцягі, за волю, за зямлю бацькоў!*
*(«Шляхецкая»)*

Этапнай стала работа «Гэта мы!» 1996 года, дзявяты па ліку цыкл песень. Тытульная маршападобная песня стала тады лейтматывам супраціву гвалту з людзей у час масавых шэсцяў на вуліцах сталіцы, песняй надзеі на блізкую перамогу і разам з тым дакладным аналізатарам сітуацыі:

*Нехта кажа «бывай»,*
*Гэта шчэ не значыць канец.*
*І хаця ў канвульсіях край,*
*Рана канстатаваць смерць,*
*І хаця не відаць куды,*
*І надзеі ні на каго,*
*Ты паслухай — звіняць званы.*
*Гэта з намі гаворыць Бог.*

Не выпадкова пазней гэтую песню ўпадабала і Кася Камоцкая. Мельнікаў сплаціў ёй пазыку, выканаўшы ў адным з апошніх цыклаў яе «Белую лебедзь» на верш Сыса.

Тады Мельнікаў стаў пачынальнікам яшчэ і аднайменнага фестывалю «Гэта мы!». Нагадаю: апрача «Аршанскай бітвы», ён запачаткаваў фестываль «Талька» на Гомельшчыне, прычым два апошнія нягледзячы ні на што жывуць і сёння. І ёсць спадзеў, будуць жыць. Да гэтага часу вывілася і музычная фабула творчасці Андрэя — гэта дужа блізкая да фальклорна-баладнай вельмі простая рытмічна-меладычная форма гарадскога рамансу, часам пераходзячая ў здзекліва-парадыйны фарс, часам — у вальс, танга-факстрот ці ваяцкі марш.

З часам выявілася, што меладычны «мельнікаўскія» формы баладна-прыпевачнага характару паўтараюцца раз за разам у новых цыклах песень. Шукаючы дадатковыя фарбы для аранжавання сваіх простых песенных канструкцый, Мельнікаў пачаў уводзіць гучанне духавых інструментаў, прычым, не маючы магчымасці запісаць іх натуральнае гучанне, пачаў імітаваць іх сваім жа голасам. Атрымлівалася калі больш, калі менш удала.

З часам пошук гэтых дадатковых фарбаў прывёў яго да ідэі стварэння свайго аўтарскага гурта. Так з'явіўся гурт «Colorado beetles» («Каларадскія жукі»), лідарам якога ён і стаў. На жаль, век гэтага ўтварэння стаўся не дужа доўгі.

Мельнікаў не баіцца кранаць гістарычных асоб нашага краю: як ні ў каго іншага, у ягоных песнях мы знаходзім цэлую галерэю такіх постацяў: Алесь Гарун, Янка Купала, Станіслаў Булак-Балаховіч, Афанасій Філіповіч, Зянон Пазьняк… Іншая справа, што можна і не згаджацца з аўтарскай пазіцыяй адносна той ці іншай асобы. Не баіцца аўтар кранаць палітычныя забурэнні краіны і цяпер. У апошніх цыклах падзеям 19 снежня прысвечана аж некалькі песняў:

*Вас мясілі, што сілы,*
*з усіх старон,*
*І звінеў, звінеў Нагасакі звон*
*У перадкалядны пост.*
*Не запэцкаць вас патокам*
*хлусні,*
*І не выкрасліць, і ў будучыні*
*Усім, хто застаўся тут*
*Вечнасць аддасць прысуд.*

Адной з праблемных кропак песень Мельнікава ёсць галасавыя магчымасці аўтара, якія далёка не заўжды спраўляюцца з пастаўленымі ім кампазітарам Мельнікавым задачамі. З простымі мелодыямі ён спраўляецца здавальняюча, але, напрыклад, калі трапляецца распеўна-філасофская «Хуанхэ», то голас пачынае нярэдка «ездзіць» па танальнасцях. І хаця з часам валоданне голасам Андрэй падцягнуў, праблема да канца не зжытая. Другая такая кропка — лексіка песень Мельнікава, дзе да сёння навалам расейшчыны. І хаця сам аўтар (дарэчы, філолаг па адукацыі) кажа, што тым самым ён пашырае беларускую лексіку, мне гэтае пашырэнне падаецца надта сумнеўным.

Крызіс у творчасці Мельнікава супаў з крызісам у нацыянальна-адраджэнскім руху. Выпадкова гэта ці не, але факт: пасля 2001 года сем гадоў Андрэй амаль нічога не пісаў. Тады ж адбыўся паварот да веры: Андрэй стаў дыяканам у царкве. Новыя цыклы ягоных песень паказалі, што крызіс не пераадолены. Як і ў пачатковы перыяд, сталі пісацца рускамоўныя песні. А галоўнае — значная частка песень з новых цыклаў — гэта ні што іншае, як рымэйкі старых, вядомых савецкіх песень.

Вось прыклад: бярэцца мелодыя вядомай песні Нікіціна «Пад музыку Вівальдзі», і атрымліваецца вось што:

*Пад музыку Вівальдзі, Вівальдзі,*
*Вівальдзі*
*Сядзім у Бухенвальдзе, сядзім*
*у Бухенвальдзе,*
*Вецер норд-ост, навокал*
*халакост.*
*Чаму ж мне не пець, чаму ж*
*не гудзець?*
*Таму й не гудзець, што працэс*
*ідзець.*

Можна пасмяяцца, але калі сур'ёзна разабрацца, дык гэта сведчанне таго, што творчы крызіс працягваецца; у апошніх двух цыклах песень «Як з-за выспы на фарватар» і «Зубы на далоні» такіх рымэйкаў ледзь ці не палова ад усяго зместу.

А найбольш цікавыя песні, як правіла, на вершы іншых аўтараў — Сыса, Галубовіча, Лебяды, Караткевіча… А галоўнае — амаль усе яны шчымліва журботныя, ад іх адчувальна вее скрушнай безнадзейнасцю і безвыходнасцю. Адно з нешматлікіх выключэнняў — «Слёзы» на верш Анатоля Сыса. Незвычайная, нейкая эпічная фактура кампазіцыі, жывыя эмоцыі, голас зноў, як некалі, узлятае ў прастору, амаль фізічна адчуваеш сонца, паветра і боль:

*Поле, поле ў німбах сланечнікаў,*
*сланечнікаў,*
*Жоўты-жоўты вецер пчолаў лашчыць, лашчыць.*
*Страшна. Страшна, страшна*
*вее, вее, вее,*
*Жоўтым, жоўтым-жоўтым*
*ветрам, ветрам,*
*Ветрам. Ходзіць, ходзіць*
*полем вечнасць,*
*Вечнасць. Пчолы, пчолы, пчолы*
*джаляць маці,*
*Маці. У вочы, вочы, вочы.*
*Па шчоках сцякаюць слёзы.*
*Слёзы, слёзы, слёзы, слёзы, слёзы…*

Цікава, што 8 верасня на Крапіўне Андрэй не стаў яе спяваць нават па просьбе — не гатовы быў, бо выкананне вымагае пэўных высілкаў. Разам з тым у новых цыклах з'явіліся песні на іншых мовах — украінскай, нямецкай — чаго раней не было. А ў мелодыцы некаторых новых песняў нечакана праступілі інтанацыі Шалкевіча. Гэтага таксама раней не заўважалася. Ён па-ранейшаму піша на дзіўнай мешаніне лацінкі і кірыліцы, таму чытаць ягоныя рукапісы — не для слабанервовых. І разам з тым гэта ўжо іншы Андрэй Мельнікаў.

Не ведаю, як скончыць гэты нарыс. Вобраз Мельнікава не складваецца ў нейкае адно акрэсленае цэлае, расплываецца ў прасторы. Таму не буду ставіць кропку…

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# САВЕЛІЙ І РЫГОР: ПАВЕСЯЛІЛІСЯ І РАЗАГНАЛІ НУДУ…

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Шкада, што ў наш час знікла такая мастацкая плынь, як ананімная літаратура. Якая гэта была асалода, напрыклад, у застойныя 70-я гады мінулага стагоддзя гадаць, хто ж асмеліўся напісаць геніяльны «Сказ пра Лысую Гару»? Цяпер мы ўжо ведаем імя аўтара — Ніл Гілевіч. Дзякуючы даследчыкам, мы даведаліся і пра мяркуемых аўтараў «Тараса на Парнасе» (К. Вераніцын) і «Энеіды навыварат» (В. Равінскі). Ад гэтага змест паэм не стаў менш цікавым, але арэол таямнічасці гэтых твораў паменшыў.**



Лявон Вольскі




Калі б у той час з'явіўся літаратурны твор «Саўка ды Грышка» паводле новага дыска з серыі «Бібліятэка «Свабоды» XXI стагоддзе» ў выглядзе кнігі ці самвыдатаўскіх сшыткаў, то яму б наканавана было б адразу стаць класікай ананімнай сатырычнай паэзіі XXI стагоддзя. Але мы жывем у эпоху, калі нічога не застаецца без аўтарства. Тым больш, дзякуючы сусветнаму павуцінню добра вядома, што сатырычны цыкл «Саўка ды Грышка. Сто песень: 2010–2012» быў прадуманы і ажыццёўлены на Радыё «Свабода» вядомым беларускім рок-музыкантам і паэтам Лявонам Вольскім.

## Новая сатыра

Гэта была цудоўная, канцэптуальная ідэя — пераўтварыць дзеючых персанажаў каляднай народнай песні «Саўка ды Грышка» ў галоўных дзеючых асоб новай сатырычнай эпапеі — Савелія і Рыгора — і развесці іх па розныя бакі ідэалагічных барыкад, якія сёння ўзведзены на нашай зямлі. Ад гэта і былі выбраны характары сатырычнага цыклу: Савелій — апантаны прыхільнік дзеючай улады, які свята верыць усяму, пра што гавораць па тэлебачанню («цілівізар беларускі очэнь пазіцыўны, он для всячэскай разгрузкі неабхадімый») і шчыра адзначае ўсе «чырвоная даты» календару. Мова Савелія адпаведная — камічная «трасянка», якая стала дзяржаўнай для бюракратыі, а значыць, і для нашага героя. Хаця Савелій скончыў беларускую школу, родную мову ён не любіць і кпіць з Рыгора, які карыстаецца «тарашкевіцай». Тая для Савелія стала адзнакай небяспечнай «рэвалюцыйнасці» («хто гаварыць на ім — адна старая ў дзярэўні, ну і куча адмарозкаў, што цягнуць апазіцыі павозку»).

У процівагу, Рыгор — свядомы апазіцыянер, змагар з рэжымам, не звяртае ўвагу на ярлыкі Савелія, кшталту «адмарозкі» ці «агент заходніх разведак». Ён так непарушна верыць у перамогу дэмакратыі і свабоды, што часцяком пачынае ў марах разгортваць самыя неверагодныя сцэнары развіцця падзей і краху рэжыму («маральныя пачвары ўсе пакінуць п'едэстал і нечакана здарыцца вясновы карнавал»), адрываецца ў сваіх ілюзіях ад рэальнасці, чым выклікае насмешкі свайго пастаяннага візаві Савелія.

## І швец, і жнец…

Цікава, што ўвесь цыкл за антаганістаў Савелія і Рыгора праспяваў адзін Лявон Вольскі, які тут прадэманстраваў сапраўднае майстэрства пераўвасаблення. Голас Савелія напоўнены высокімі тэмбрамі дзяржаўніцка-ўзвышанага патрыятызму і неперможнага аптымізму. Але калі гэта тычыцца сямейных звадак альбо дэпрэсіўных думак, якія з-за эйфарычнага характару адносін да рэчаіснасці бывае апаноўваюць нашага героя, то Савелій можа «зацягнуць» так жаласна, што не грэх і пашкадаваць небараку.

Поўнай тэмбравай супрацьлегласцю гучыць на дыску голас Рыгора, які напоўнены годнай рашучасцю ў дасягненні ягонай (самі ведаеце якой!) мары («цёткі паслухмяныя хай месяц сваё цеста, а я пайду на акцыю маўклівага пратэсту»). У той жа час Рыгор праяўляе цвёрдасць, калі трапляе за краты. Гэтая цвёрдасць перадаецца аўтарам у спевах, якія ён выконвае паводле тых гістарычных прыкладаў пачатку XX стагоддзя, на якія ён арыентуецца ў сваім змаганні («Ліст ад Грышкі» з цытатай Я. Коласа «У турме»). Але і Грышку бывае сумна і яго цісмуць песімістычныя думкі, што адбіваецца на дынаміцы і манеры яго выканання («калі і будзе Плошча, дык толькі пару дзён»).

Безумоўна, у слухачоў можа ўзнікнуць пытанне, як Лявон так праспяваў за Савелія і Рыгора, быццам бы гэтыя ролі выканалі два розных спевака? Карыстаючыся інсайдэрскай інфармацыяй, выкажу здагадку, што тут справа ў выкарыстанні спецыяльных кампутарных праграм, якія дапамаглі агучыць дыяметральна супрацьлеглыя, але і ў нечым роднасныя, літаратурныя вобразы нашай сучаснасці.

## За словам нота

Тым, хто знаёмы з паэтычнай творчасцю Лявона Вольскага, не трэба лішні раз нагадваць пра яго літаратурны талент, які рэалізуецца ў рок-паэзіі, лірычным і сатырычным рэчышчы. Сапраўды, слухачоў ужо колькі гадоў прыцягвае да песенных радкоў Лявона іх гранічная вобразнасць, разнастайная лексіка, інтэлектуальнасць, бездакорныя, а часам і нечаканыя рыфмы.

Цыкл «Саўка ды Грышка. Сто песень 2010–2012» замацаваў за Л. Вольскім яшчэ адно амплуа — сатырыка, які па-майстэрску выкарыстоўвае сітуацыйныя і моўныя кантрасты герояў, сучасны слэнг для стварэння гіпербалізаванага эфекту камічнасці. Слухачоў сапраўды ўражвае той факт, што цыкл адлюстроўвае значныя гістарычныя падзеі мінулых двух гадоў, якія, бывала, здараліся цягам аднаго тыдня. За гэты кароткі час Лявон стварыў не толькі рыфмаваныя дыялогі на актуальную тэму, але і мелодыі да іх, аранжыроўкі і запісваў іх у студыі. Гэтак жа здзіўляе трапны выбар тэмаў для новых музычных скэтчаў: быццам бы музыкант стаў абазнаным палітычным аналітыкам, які дзень за днём фіксаваў і асэнсоўваў думкі і ўчынкі сваіх персанажаў у плыні гістарычных падзей.

Постмадэрнісцкай феерычнасцю адрозніваецца і мелодычнае суправаджэнне цыклу. Хоць музыка ў ім, здаецца, выконвае падпарадкаваную ролю, яна нясе дадатковую ілюстратыўную функцыю. Што тычыцца асноўнага стылістычнага кірунку, дык Лявон шырока ўводзіць у цыкл мінімалістычны, з тутэйшым каларытам, сінт-поп, які характарызуецца выкарыстоўваннем сінтэзатраў і кампутараў для стварэння аранжыровак песень, даюць неабходную вобразнасць і разнастайнасць.

А вось з музычнымі жанрамі на новым дыску поўны карнавал і панаванне аўтарскай фантазіі! Тут Лявон Вольскі шырока выкарыстоўвае рэп, як гэта зроблена ў музычных чытанках «Газ» ці «Маналог Саўкі», мелодыі сусветна вядомых эвергрынаў «АВВА» («Money, money») ці Ніна Рота («Хросны бацька»), стандарты савецкай эстрады 70–80 гадоў, кшталту, «Королева красоты» («Партрэт кандыдата») ці «Остров невезения» («Астравок стабільнасці»), «Как провожают пароходы» («Туды, сюды — суды, суды»). Ёсць і нешта накшталт рок-аранжыровак у стылі «Rammstein» («Вы жэ самі ўсё прэкрасна панімаеце»).

## Глядзі ў корань

Асобная тэма размовы — фальклор у цыкле «Саўка ды Грышка. Сто песень 2011–2012». Калі ўжо гэтыя неўміручыя персанажы «прыйшлі» да нас з фальклорных далягляддаў, дык натуральна, што асноўны мелодычны малюнак большасці песень цыклу мае народную песенную афарбоўку.

Мяркуйце самі: цыкл распачынаецца фантазіяй на тэму загалоўнай песні цыклу «Саўка ды Грышкам» («Знаёмства»). Далей у Лявона што ні скэтч, то мае народныя песенныя карані ці аўтар наўпрост цытуе нейкі беларускі спеў («Развітанне»), выконвае яго ў рытме прыпеўкі («Менскі форум», «Салавей», «Вынікі года»...).

Але не толькі ў беларускі фальклор пагружаны аўтар. Вольскі напоўніцу выкарыстоўвае стылістыку рускіх частушак («Расейскія госці»), яўрэйскія жартоўныя мелодыі («Дайце дзенег!»), а таксама сучасны крымінальны шансон, кшталту «Муркі» («Гудбай, Яўропа!»), «На Дерибасовской открылася пивная» («Кампанія блатная»). А якое ж постмадэрнісцкае мастацкае палатно можа абысціся без музычных пародый і алюзій. Слухачам тут, безумоўна, запомніцца едкая пародыя на «патрыятычны» хіп-хоп Ксеніі Дзягелькі («Мы ўсе ізь дзярэўні») ці алюзія на вядомую песню У. Высоцкага «Ой, Вань, гляди какие клоуны» («Паслы прыляцелі»). І такіх адкрыццяў на дыску шмат, таму і слухаецца ён на адным дыханні...

Нельга не сказаць некалькі слоў і пра само гэтае мультымедыйнае выданне. Новы дыск выйшаў у дыгіпаку і фірмовым серыйным афармленні, характэрным для такіх зборак, як «Сто бардаў Свабоды», «Начная чытанка», якія раней пабачылі свет на Радыё «Свабода». У яго мультымедыйнай скарбонцы для чытачоў прыхаваны больш за трыццаць кніг і аўдыё-дыскаў, аўтарамі якіх з'яўляюцца беларускія паэты і пісьменнікі, філосафы і музыканты розных пакаленняў — аўтараў Радыё «Свабода». Цяпер іх творы даступны для масавага знаёмства ў фармаце pdf. Але галоўны сюрпрыз новага выдання — сатырычны песенны цыкл «Саўка ды Грышка». Сто песень: 2011–2012», з дапамогай якога праз слёзы калі-небудзь стане адзіным цэлым гэты вечна раз'яднаны беларускі народ.

▸ СПАДЧЫНА

# БРЭСЦКІЯ ПАДЗЯМЕЛЛІ

Яўген БЯЛАСІН

**Увесну мы ўжо публікавалі артыкул пра брэсцкія падзямеллі. Існуе версія, што ёсць падземны Брэст (памяшканні, злучаныя сеткай тунэляў). Прапануем працяг тэмы.**



Фота аўтара

Замураваны выхад за фундамент пад будынкам на Машэрава, 50



Арка ўваходу ў падзямелле на востраве былой фартыфікацыі па вул. Фартэчная

Найперш я праверыў версію пра ход пад былой жаночай турмой (будынак на Карла Маркса, 95). Пасля вайны там месціўся камбінат электратэхнічных вырабаў, былы дырэктар якога Валянцін Корнеў і засведчыў пра ход з падвала. Потым там быў апорны пункт міліцыі — адзін афіцэр у адстаўцы, які прасіў пра ананімнасць, распавёў, што яны хадзілі адтуль у бок «англійскай» турмы (пабудавана на пачатку XX стагоддзя па англійскім праекце, сёння фабрыка спартовай вопраткі «Дынама — Програм»). Ён казаў таксама пра тое, што быў яшчэ адзін ход у бок Брэсцкай крэпасці. І яшчэ згадаў, што ў час начных дзяжурстваў яны бачылі... здань жанчыны ў вэлюме!

Выпадковы суразмоўца, экскаватаршчык Дзмітрый Пятровіч, распавёў, што ў 1990-х гадах каля цяперашняй Цеплаэлектрацэнтралі (гэта метрах у 300 у бок крэпасці) капаў траншэю і накапаў касцей, прастрэленых чарапоў. Можа, тут выносілі з турмы і прыкопвалі расстраляных, сказаў Дзмітрый Пятровіч.

У мяне звесткі крыху іншыя, і дата расстрэлаў ёсць дакладная, але гэта іншая тэма.

Некалькі чалавек сведчылі пра тое, што былі злучаныя пад зямлёй гістарычныя будынкі па праспекту Машэрава, 50, на Астроўскага, 12 і будынак на рагу вуліцы Будзённага, дзе сёння месціцца Брэсцкі раённы суд. У першых двух цяпер знаходзяцца службы МУС.

Адтэрмінаванне зносу будынкаў польскага часу на вуліцы Астроўскага і праспекце Машэрава, дзе раней, паводле некаторых крыніц, месціліся сілавыя ведамствы польскай дзяржавы, дало магчымасць вельмі павярхоўна, але абследаваць іх. У адным, на Астроўскага, 12, паводле словаў гаспадароў, «падвалаў ніколі не было», пад другім ёсць сутарэнні, і даволі ёмістыя. Некія выхады за фундамент там і сапраўды замураваныя (фота). Нагадаю, ёсць версія, што палякі, каб пазбегнуць узрушэнняў, вадзілі сябраў КПЗБ, уключна з Верай Харужай, з дэфензівы ў суд пад зямлёй.

Аднойчы супрацоўнік «Брестского Курьера» Сяргей Патапаў распавёў мне, як яго, 4-гадовага, за ручку вадзіў пад зямлю пасля вайны тата — школьны настаўнік хіміі, які сумяшчаў гэтую працу з інспектаваннем аб'ектаў грамадзянскай абароны. «Мяне не было з кім пакінуць, дык мы заходзілі ў двары вуліцы Камсамольскай, насупраць універмага «Дзіцячы свет», і выходзілі аж перад праспектам Машэрава, дзе стаіць сёння помнік Клімуку. Гэта блізу кіламетра! Велізарныя склады там былі, на выпадак атамнай вайны. Вопратка хімабароны, прадукты і нават лёгкая стралковая зброя. Потым на загад Хрушчова ўсё прыбралі».

Прыбралі ўсё, але ж падземныя камунікацыі засталіся! І няхай яны не старажытныя, але паслужыць турызму, хаця б тым ці іншым адрэзкам, не сумняваюся, маглі б. «Ноч у савецкім атамным бамбасховішчы» — такі сабе экстрэмальны гатэльчык для аматараў адрэналіну. Або маршрут «Што было б, калі б не Карыбская развязка».

Не сакрэт, што пісьменнік Сяргей Смірноў, дзякуючы якому паставілі Мемарыял «Брэсцкая крэпасць», пісаў пра сетку падземных камунікацый пад ёй.

Абсалютна нечакана сам знайшоў дакументальнае пацверджанне гэтаму. Паўгода праляжала яно непрачытаным: было ў электронным выглядзе. На патрабаванне пракуратуры, якая праводзіла расследаванне нядбайнасці ў карыстанні інжынернымі камунікацыямі ў Брэсцкай крэпасці, галоўны спецыяліст аддзела культуры Брэсцкага гарвыканкама Ала Кондак засведчыла: «Вядома, што з Брэсцкай крэпасці ў горад і да кожнага аб'екта фартыфікацыі вядуць падземныя хады. Ёсць яны і на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці...» Далей спадарыня Кондак піша, што схемаў і планаў ні ў Міністэрстве культуры, ні ў горадзе няма — яны ў Маскоўскім ваенна-гістарычным архіве.

Узгадалася і брэсцкая вуліца Фартэчная і арка ўваходу пад зямлю на востраве, акружаным вадою. Дырэктар аграбіястанцыі, якая месціцца на тэрыторыі былой фартыфікацыі, сказаў, што колькі гадоў таму засыпаў уваход у тунэль, «бо дзеці там шасталі, небяспечна было».

Цяпер час сфармуляваць выснову і заклік-задачу для патрыётаў Брэста і Беларусі. Чаму Беларусі? Бо калі ў нас атрымаецца, дык можа стаць на парадак дня і асваенне Полацкіх лёхаў, пра якія пісаў Уладзімір Арлоў, а там, глядзіш, пойдзе следам Гродна, капітулюе Слонім.

Падземныя ходы ў Брэсце, дзе мелі свабодны выхад, былі замураваныя, — дзеля сакрэтнасці або хаця б дзеля таго, каб не сыходзілі ў незварот дзеці. Месцамі (прыкладам, ёсць сведчанні пра раён каля аўтастаянак пад новым мостам з вуліцы Леніна цераз чыгунку, бліжэй да гарадскога парка, або пра патэрны ля Тэрэспальскай брамы Брэсцкай крэпасці) яны абваліліся або былі часткова засыпаныя і на сёння пункцірныя, што робіць іх цяжкадаступнымі і небяспечнымі.

## Заклік да чытача

Калі вы жывяце ў Кіеве, дапамажыце выйсці на след дакументаў па рэканструкцыі Брэсцкага чыгуначнага вакзала, меркавана, у 1952 (1950?) гадах. Яны могуць быць у адным з праектных інстытутаў, які быў раней Саюзнага падпарадкавання. Пасля вайны з сутарэнняў была адкачаная вада, якую налілі туды немцы, каб высцесніць міліцыянтаў і чырвонаармейцаў, якія аказвалі супраціў, і ў палавіну вышыні быў засыпаны пясок і друз. Мяркуецца, што вакзал быў злучаны пад зямлёй з крэпасцю і з цэнтральнай часткай горада. Гэта магло быць неяк абазначана на схемах дзеля карысці будаўнікоў.

Калі вы жывяце ў Маскве, праверце наяўнасць у Маскоўскім ваенна-гістарычным архіве згаданых спадарыняй Алай Кондак дакументаў; па магчымасці зрабіце копію з патрэбнымі чарцяжамі і схемай хаця б аднаго падземнага злучэння дзвюх фартыфікацый. Загадзя ўдзячныя за вынік.

Калі вы нейкім чынам можаце наведаць польскія аналагі Брэсцкай крэпасці — Дэмбін і Модлін, праверце іх на падземнасць і дашліце вынік на Народны праект на адрас рэдакцыі «Новага часу».



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.
ЗАСНАВАЛЬНІК: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
ВЫДАВЕЦ: Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org
НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
Замова № 1043

Падпісана да друку 12.10.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.